№ 13 (222) 26 сакавіка 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# ДЗЕНЬ ВОЛІ

Рэпартаж пра сьвяткаваньне і акцыі пратэсту




ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

# НУЛЬ-НУЛЬ

## *Людзі сьвяткавалі, апазыцыя дэфілявала, міліцыя дурэла*

Сьвяточныя дні аказаліся насычаныя імпрэзамі. Перадсьвяточная ліхаманка ў Менску пачалася з традыцыйнай выставы мастацкай суполкі «Пагоня». На ёй прадставілі творы 11 жывапісцаў ды графікаў. Экспазыцыя мае выразную назву — «У новае тысячагодзьдзе з новым прэзыдэнтам». Праграму «пагонеўцаў» працягвалі гісторыкі, якія падрыхтавалі круглы стол па пытаньнях барацьбы за незалежнасьць.

24 сакавіка ў Нямецкім адукацыйным цэнтры адбылася ўрачыстая цырымонія падпісаньня Акту незалежнасьці, прынятага летась на Ўсебеларускім зьезьдзе за незалежнасьць, сустаршынямі аргкамітэту зьезду – Радзімам Гарэцкім, Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным і Анатолем Грыцкевічам. У гэты ж дзень у сталічным касьцёле Сьвятых Сымона і Алены адбыліся ўрачыстасьці, прысьвечаныя выхаду 500-га нумару газэты «Наша Слова». А ўвечары ў клюбе «Акварыюм» — незалежніцкая музычная рок-імпрэза. У Полацку Сяргея Астраўца ганаравалі прэміяй "Гліняны Вялес". У Вільні, Празе, Варшаве, Нью-Ёрку, Беластоку, Рызе, Лёндане, Брусэлі, Парыжы, Кліўлендзе і Маскве прайшлі сьвяточныя бяседы і набажэнствы.

Завершыў праграму сьвята вечаровы пэрформанс 25 сакавіка ў Чырвоным касьцёле з выставамі жывапісу Генадзя Драздова і Алеся Пушкіна, выступленьнямі паэта Андрэя Хадановіча, сьпявачкі Тацяны Цыбульскай, бардаў Андрэя Мельнікава і Аляксея Галіча, музыкаў Алега Пузыні і Скіргайлы Палянэцкага ды фольк-групы «Гуды».

Апазыцыя ж правяла чарговыя шэсьці ў Менску.

Вызвольны Рух параскідаў улёткі па скрынках з заклікам прыйсьці апоўдні на плошчу Незалежнасьці. Адтуль калёна пазьнякоўцаў (пад тысячу чалавек) рушыла па праспэкце, але міліцыя не пусьціла іх.

Акцыя дэмакратычнай апазыцыі пачалася а 14-й на Юбілейнай плошчы. Там сабралася пад 5 тыс. чалавек. Паколькі ўся гара вакол плошчы была ачэпленая міліцыяй, дэманстранты пасунуліся па вул.Танка, а затым – па Дразда. Праспэкт Машэрава быў перагароджаны спэцназам, і міністар Навумаў заклікаў усіх рушыць у бок плошчы Бангалор. Але людзі вырашылі пасвойму: павярнулі да помніка гораду-герою, "бабы з трубой". На гэтай харошай гары і адбыўся хуткацечны мітынг. Вячаслаў Сіўчык паабяцаў на ім, што ніколі болей апазыцыя не павядзе народ на Бангалор.

На разгон сходу – небясьпечнага сымболікай месца — за некалькі хвілінаў сьцягнулі некалькі тысячаў амонаўцаў, якія і атакавалі мітынгоўцаў. Тут пасьля кароткіх сутычак затрымалі дзясятак чалавек.

Акцыі праходзілі нудновата, мэханічна, без імпэту, бяз кветак і упрыгажэньняў, нават скандавалі і сьпявалі мала. Лявон Вольскі прыйшоў на сьвята ў акулярах з тоўстымі шкельцамі, з прычэпленымі вусамі і плякацікам «Менш мульцікаў на БТ», а партыйцы — са звыклымі транспарантамі. Людзям карцела сьвята, а палітычныя лідэры гэтага не адчулі. Думаецца, не за адным сьвяточным сталом ім гэта згадалі.

**Мікола**



REX-PROMEDIA

# Народ улады і народ сябе

## *Нашы праблемы існуюць па-за намі, а ня ў нас*

На парозе Дня Волі давялося спрачацца зь сябрамі пра самую філязофію нашага нацыянальнага адраджэньня і пра тэрмін «народ улады».

Беларусы — народ улады. Смургонскія людзі належаць смургонскай адміністрацыі, жлобінскія — жлобінскай. У нас так ня кажуць, але па сутнасьці гэта так. Калі хочаце, беларусы — Лукашэнкавы людзі. Прычым, без акцэнту на канкрэтнай асобе. Заўтра яны могуць стаць Домашавымі ці Пазьняковымі людзьмі — важна тое, што дзейнічае сам гэты прынцып. У нас кажуць: каб зьявіліся беларускія школы, трэба загад адпаведнага міністэрства. І гэтак з усім... Калі нарэшце дадуць загад адрамантаваць у нашым мястэчку вадакачку і пажарную вежу!.. Народ улады зьвязвае ўсе свае жаданьні і ўсю сваю дзейнасьць з уладамі. А не з сабою. Між тым нацыянальнае адраджэньне і нацыянальная культура робіцца явачным парадкам. Можна казаць: на гэта няма грошай, гэтага не дазволіць начальства... А можна нічога не казаць і рабіць сваё, разглядаючы патрэбу фінансаваньня і нейкага начальніцкага подпісу як аб'ектыўныя перашкоды, якія трэба ў рабочым парадку пераадольваць. Так робіць *народ сябе*. А народ улады разглядае тыя перашкоды як непераадольныя.

Пасьля нядаўняга фэстывалю літоўскіх фільмаў прыйшлось зьдзіўляцца: як гэта рэжысэр Жалакявічус, здымаючы ў глыбокую савецкую эпоху фільм «Ніхто не хацеў паміраць», паралельна зьняў яшчэ адну стужку — «Пачуцьці» — ужо без саступак савецкай прапагандзе. За гэтым прыкладам — цэлая філязофія літоўскага адраджэньня. Жалакявічус разглядаў савецкую цэнзуру як аб'ектыўную перашкоду, якую можна залагодзіць, абысьці старанно або і надурыць. Што да нашых творцаў, дык яны ад пачатку сыходзілі з установак цэнзуры, носячы іх пад сэрцам побач са сваімі творчымі задумамі.

Калі працягваць літоўскія прыклады, дык варта згадаць Троцкі замак, наноў збудаваны за савецкія грошы, тыя, што ў БССР ішлі, як і прызначаныя былі, на будаўніцтва аб'ектаў манумэнтальнай прапаганды. Усіх гэтых помнікаў Леніну, стэлаў і мармуровых дошак гонару. Пакуль у машэраўскай Беларусі ідэалягічныя грошы выдаткоўвалі паводле прызначэньня, літоўскія таварышы зьбіралі чамадан з кілбасамі, сырамі і медавухай ды ехалі да крамлёўскага сталаначальніка, які хутка згаджаўся, што Троцкі замак — таксама важны аб'ект для выхаваньня савецкага патрыятызму.

Літоўцы за савецкія грошы правялі ў парадак свае старыя гарады. А беларусы засталіся з дошкамі незразумелага гонару, бюстамі героеў сацпрацы і бэтоннымі інсталяцыямі кшталту «Міру — мір».

А ўся справа тут у падыходзе, у філязофіі.

У нас сёньня скардзяцца, што "ў ЗАГСе не даюць дзіця назваць па-беларуску", бо там кіруюцца даўнім узаконеным рээстрам, які называецца «Словарь личных имен народов РСФСР». Калі зноў жа прывесьці літоўскі прыклад, дык там у прынцыпе не існуе абмежаваньняў. Да абвешчаньня сваёй незалежнасьці літоўцаў называлі гэтаксама, як і беларусаў — то на польскі, то на расейскі лад польскія і расейскія ўлады. У міжваеннай Літве пераважылі бум імёнаў Вялікіх Князёў — Вітаўтаў, Гедымінаў, Альгердаў — і з прыходам савецкае ўлады дапоўнілі гэтую традыцыю царкоўным іменьнікам, а пасьля разбуяла паганства — Сонцы, Елкі, Дзюны...

Нездарма зводжу гутарку да зусім канкрэтнага — да імёнаў, бо гэта ці ня першае, што ў нацыянальным адраджэньні можна рабіць явачным парадкам. Першы крок да зьмены філязофіі адраджэньня. Мы, бадай, ні на што ў сваёй краіне ня маем такіх пераканаўчых правоў, як на сваіх навародкаў. Зь іншага боку, такім чынам мы фармуем аблічча сваёй нацыі.

Выбар імя для дзіцяці сутнасна блізкі да ўсялякага выбару, які робіць чалавек. Гэта таксама волевыяўленьне. Насуперак застарэламу сындрому народу улады, які напаўняе сваімі мэтастазамі ўсё наша грамадзкае цела, у тым ліку і дэмакратычную апазыцыю, і нацыянальны рух, і культуру, творчасьць... усё. У розных сфэрах мы выбіраем, не выяўляючы волі. Нават тады, калі выбіраем імя для свайго дзіцяці.

Разважаючы пра гэта, лішні раз падумаеш пра сэнс нашага Дня Волі. Волі бракуе. Воля — гэта тое, што можа народ улады зрабіць народам сябе.

**Сяргей Паўлоўскі**

# У пралёце

**23 сакавіка маладафронтаўцы на чале з Паўлам Севярынцам правялі акцыю пад файным слоганам «Лукашэнка ў пралёце». Яны зьявіліся ля будынку прэзыдэнцкай адміністрацыі з рознакаляровымі балёнікамі. На самым вялікім былі намаляваныя пазнавальныя вусы й чуб.**

*Да Дня мэтэаролягa Маладыя Фронт прыдумаў дэвіз, ня горшы за сэрбскае «Gotov je».*

Да Дня мэтэаролягa Маладыя Фронт падрыхтаваў гумарыстычны прагноз палітычнага надвор'я на вясну–восень 2001 году. Так, на 25 сакавіка ён абяцаў дэманстрацыі, месцамі АМОН, сабакі й бранетэхніку; уранку — замаразкі, удзень — адмарозкі. Увесну на ўсёй тэрыторыі рэспублікі — магутны Маладыя Фронт са шквальнымі маніфэстацыямі. Да пачатку восені стан палітычнага надвор'я будзе вызначаць моцны Вецер Пераменаў. У дзень выбараў чакаюцца масавыя фальсыфікацыі й парушэньні заканадаўства. Рэзкія парывы тэлефонных ліній у офісах апазыцыйных партыяў будуць спалучацца з пралі́йной хлусьнёй афіцыйнага тэлеканалу. Завершыцца восень, на думку маладафронтаўцаў, 100-тысячнымі маніфэстацыямі, а бліжэй да зімы ўсе «Дразды» палятуць у вырай — у Афрыку ці ў Паўночную Карэю.

«Паводле нашых прагнозаў, Лукашэнка на сёлетніх выбарах «у пралёце», — сказаў Севярынец. — Каб спраўдзіць, наколькі моцна, зь якім адрывам ад дэмакратычнага кандыдата, мы й запускаем гэты зонд». З гэтым балёнік і падняўся ў паветра. Набеглі супрацоўнікі службы аховы прэзыдэнта й міліцыянты, але затрымаць ім удалося толькі Севярынца. Яго завезьлі ў пастарунак і праз паўтары гадзіны адпусьцілі.

**Б.Т.**



IREX-PROMEDIA

## спартовы тыдзень

# Бульба з салам

**Беларускія ды ўкраінскія футбольныя заўзятары варагавалі шчэ з савецкіх часоў, і, напярэдадні матчу зборных, вастрылі адзін на аднаго зуб у Інтэрнэце. Аднак хуліганскія разборкі ў Кіеве сваёй жорсткасьцю пераўзышлі самыя жудасныя прадказаньні.**

Першая сутычка адбылася на Хрышчацiку перад гульнёй маладзевых зборных. Блізу 20 чалавек з кожнага боку з арматурай, бутэлькамі ды камянямі ўчынілі крывавую бойку. Зь дзясятак забрала "хуткая дапамога". Адзін украінец, відаць, застанецца інвалідам – пералом тазавых костак.

На стадыёне змаганьне набыло інфармацыйны характар: украінцы раўлі апанэнтам "бульба", а ў адказ чулі "сала" ды "шкваркі". Беларусы так разышліся, што кінулі на поле дымавую шашку. Міліцыя ня здолела "абсадзіць" гасьцей да канца матчу, пасьля якога апошніх, дзеля іхнай бясьпекі, развозілі на аўтобусах. І баяцца было чаго – так, групку беларусаў, канваяваную дзясяткам міліцыянтаў, на Хрышчацiку атакавалі ўкраінцы зь дзягамі ды арматурай. Міліцыя адбіла напад і схавала беларусаў у мэтро.

Зранку бойкі пачаліся ў розных месцах Кіева. Найбольш агрэсіўныя беларускія заўзятары ўвесь матч праседзелі ў пастарунку. Усяго ў "Алімпійскім", разьлічаным на 80 тысячаў, было блізу 1,5 тысячы беларусаў. А матч скончыўся нічыёй 0:0. Што значыць — посьпех беларусаў.

**Богусь Біятлянёнак**

## Рэпрэсіі супраць актывістаў

3 сакавіка ў Берасьці за расклейку налепак "Зубр" затрымалі няпоўнагадовых Аляксандра Стракача і Сяргея Журбілу. 6 сакавіка Крычаўскі райсуд прысудзіў штрафы рэдактару газэты "Наш Вольны Горад" Мікалаю Матаранку і газэты "Вольны горад" Сяргею Няроўнаму (50 мін. заробкаў кожнаму). 12 сакавіка на вакзале затрымалі Яўгена Лабановіча (АГП), які вёз у Маскву матэрыялы пра зьніклых беларускіх палітыкаў для паказу ў праграме НТВ. 15 сакавіка два маладафронтаўцы Руслан Харкевіч з калегам N былі затрыманыя за раздачу ўлётак-віншаваньняў з Днём канстытуцыі. 16 сакавіка ў Барысаве за арганізацыю пікету салідарнасьці з арыштаванымі "зуброўцамі" былі затрыманыя два Зьмітры – Бародка ды Фядорчанка. 19 сакавіка Валер'я Шчукіна засудзілі на 3 месяцы арышту за "незаконную спробу" патрапіць на прэс-канфэрэнцыю міністра ўнутраных справаў У.Навумава. У той жа дзень у Менску затрымалі Андрэя Сінякова за тое, што ён гаварыў зь міліцыянтам па-беларуску. 21 сакавіка быў зьбіты кіраўнік Баранавіцкай арганізацыі БНФ Алесь Пікула. 23 сакавіка ў Менску за раздачу ўлётак былі затрыманы Павал Патапаў (Маладыя Фронт). 25 сакавіка ў Менску затрымалі Алеся Бяляцкага, Юрася Беленькага, Вінцука Вячорку, сп.Бурка, Людмілу Гразнову, Ціну Клыкоўскую, сп.Альхоўскага, Ксеню Пігуль. У Берасьці былі затрыманыя Яўген Бялясін з дачкой, Валянцін Лазаронкаў і яшчэ чатыры актывісты.



УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

## Перанесьлі «Дзяды»

**23 сакавіка ў выстаўнай залі гарадзенскага аддзяленьня Саюзу мастакоў не адкрылася выстава кавальства Юрася Мацка пад назвай «Дзяды».** Яе перанесьлі на красавік з прычыны "неадпаведнасьці інтарэсам абласной арганізацыі БСМ". Гарадзенскаму кавалю інкрымінуецца таксама «выкарыстаньне выстаўных плошчаў для рэклямы і прапаганды палітычных ідэй. Пагроза грамадзкаму правапарадку і маёмасьці залі».



Рэальная прычына адна: ня даць кавалю правесьці адкрыцьцё напярэдадні ўгодкаў БНР, бо ён шчыра сказаў дырэктарцы залі, што запросіць увесь мясцовы незалежніцкі бамонд.

**С.К.**

## навіны за тыдзень

### ВІТАЎТУ – КВЕТКІ, ЛЕНІНУ – ВЯНОК

**Сьвяточная дэманстрацыя (каля 2000 чалавек) прайшла вуліцамі Горадні.** Каля Каложы адбыўся мітынг. Былі ўскладзеныя кветкі да помніка князю Вітаўту і мэмарыяльнай дошкі паўстанцам Касьцюшкі ў Новым замку. Адмысловa да Дня Волі быў падрыхтаваны вянок з калючага дроту, зь сярпом і молатам усярэдзіне, які прызначаўся помніку Леніну. Але 25 сакавіка пляц Леніна ахоўвалі 300 міліцыянтаў. Удзельнікі акцыі кінулі вянок проста ім пад ногі. Нікога не затрымалі.

**Сяргей Краўцоў, Горадня**

### У БАРАНАВІЧАХ

**У Баранавічах у мітынгу ўзялі ўдзел каля 200 чалавек.** Выступалі паэт Міхась Скобла і бард Зьміцер Сідаровіч. Адбыўся толькі адзін невялікі інцыдэнт – маладафронтаўца Алега Фалея падчас выступу адцягнулі ад мікрафона маёр міліцыі ў адстаўцы і пэнсіянэрка. Акцыю здымаў на відэакамеру чалавек, які прадставіўся супрацоўнікам газэты «Советская Белоруссия».

### ГЕНЭРАЛЬСКІ ЗВАРОТ

**Былы камандуючы Віцебскай дывізіі паветрана-дэсантавых войскаў генэрал-лейтэнант Бачароў і генэрал-маёры Вашчыла, Лук'янаў, Стрэмавус склалі зварот у абарону Васіля Быкава ды генэрала Казлоўскага, у якім заклікаюць жыхароў Беларусі ня верыць хлусьні дзяржаўных СМІ й патрабуюць ад Генэральнага пракурора распачаць справу паводле фактаў паклёпу з боку дзяржаўнага тэлебачаньня.** Штуршком да зьяўленьня звароту сталіся перадачы БТ, у якіх Васіль Быкаў быў названы «літаратурным паліцаем», а Павал Казлоўскі абвінавачаны ў зьніжэньні баяздольнасьці беларускага войска.

### АШМЯНСКІ БУНТ

**Кіраўнікі амаль усіх прадпрыемстваў Ашмяншчыны зьвярнуліся ў адміністрацыю Лукашэнкі з просьбай звольніць кіраўніка раёну Вітольда Кудырку.** Ашмянцы незадаволеныя Кудыркам, які прыехаў у Ашмяну зь Ліды.

### ТУТ БУДЗЕ ГОРАД-САД!

**Менгарвыканкам вырашыў забраць участак зямлі на Прывакзальнай плошчы, арэндаваны прадпрыемствам «Рэстараны «Макдональдз» тэрмінам на 39 гадоў,** і перадаць яго Беларускаму дзяржаўнаму ўнівэрсытэту. Улады заплянавалі пабудаваць тут новы корпус БДУ і разьмясьціць у ім факультэт міжнародных зносінаў. З дня свайго адкрыцьця ў кастрычніку 1997 году рэстаран абслужыў больш за 3,5 мільёны наведнікаў. Там працуе 140 чалавек. У гэтым жа будынку кампанія здае офіс Беларускай службе Радыё Свабода.

**Б.Т.**



УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

**Шэсьце сяброў КХП-БНФ у Менску на праспэкце Скарыны.**

## з усёй краіны

### Памятаюць Каліноўскіх

**У Сьвіслачы тутэйшыя актывісты ўсклалі кветкі да магілы Віктара Каліноўскага — брата Кастуся.** Наведалі яны і Якушоўку, дзе была сядзіба Каліноўскіх.

**Сяргей Краўцоў, Горадня**

### Беспрацоўныя правінцыялы

**Першыя веснавыя дні не прынесьлі асаблівай радасьці на Астравеччыне. У бліжэйшыя дні ў арганізацыях пройдуць скарачэньні.** Так, у аўтапарку №4 скароцяць 10 кіроўцаў, бо большасьць "МАЗаў", якім з паўтоду няма працы, будзе разабраная. Яшчэ каля 40 чалавек скароцяць у аб'яднаньні грамадзкага харчаваньня і на гуртовай базе. Пераважна жанчын.

**Мар'ян Вянгроўскі, Астравец**

### А мог бы і стрэліць...

**Жыхар Лунінца добраахвотна здаў у міліцыю зараджаны ручны супрацьтанкавы гранатамёт,** паведаміўшы, што знайшоў яго ў канаве.

### Закрылі "Лямбду"

**Часопіс «Форум Лямбда» — адзінае ў Беларусі друкаванае гей-выданьне — пазбаўлены пасьведчаньня аб рэгістрацыі.** Часопіс быў зарэгістраваны як навукова-папулярны, культуралягічны, але больш за год выдаваўся як эратычны, палічылі ў Дзяржкамдруку.




**Мікола**

## навіны гаспадарскія

# Грошы наперад. Інакш – рэфэрэндум?

У сфэру цікавасьці расейскага капіталу трапілі Менскі аўтамабільны і Менскі маторны заводы. На іх прэтэндуе голдынг "Горкаўскі аўтазавод", уласьнікам якога зьяўляецца "Сыбірскі алюміні". Канкрэтныя ўмовы невядомыя, але справа можа скончыцца нават продажам заводаў, бо надзеі на альтэрнатыўныя крыніцы фінансаваньня сёлетніх выбараў робіцца ўсё больш прывідныні.

Так, разрэклямаванае ўвядзеньне ў Беларусі расейскага рубля да 2005 г. застанецца толькі на паперы. Са словаў Пятра Пракаповіча, Расея хоча мець манапольнае права на друк грошай, тады як Беларусь плянуе стварыць эмісійны цэнтар абодвух цэнтральных банкаў. Спробы дамовіцца вынікаў не далі, таму сёньня ўсё часьцей гучыць думка "параіцца з народам" што да будучыні нацыянальнай валюты.

Акрамя таго, Расея зьбіраецца накіраваць абяцаны крэдыт у 100 мільёнаў даляраў на сплачваньне ранейшых запазычанасьцяў Беларусі. А Лукашэнку зараз трэба жывыя грошы, бо за ўсе папярэднія гады "эканамічнага ўздыму" Нацбанк стварыў валютныя рэзэрвы ў памеры... 17 даляраў ЗША на кожнага беларуса. А трэба ж выконваць галоўны пункт перадвыбарчай праграмы ППРБ – падвышаць заробкі.

За студзень-люты іх сярэдні паказчык застаўся нязьменным, а так званы рэальны (з улікам росту цэнаў) заробак зьменшыўся на 8,5 %. Выправіць гэтае становішча можна ў сакавіку – з ростам "мінімалкі".

Аднак ня варта забывацца на адваротны бок мэдаля. Несвоечасовая выплата заробкаў сталася рэаліяй ня толькі для калгасьнікаў і прамыслоўцаў, але й для настаўнікаў і мэдыкаў. Дзе-нідзе не пасьпелі налічыць "новыя" заробкі, як папаўзлі ўгору цэны. Нядаўна на чвэрць павялічыўся кошт тэлефонных размоваў, падаражэў праезд у цягніках "унутраных" маршрутаў і электрычках. Пасьля ацяпляльнага сэзону ўздымуцца камунальныя тарыфы... Працяг будзе?

**Сяржук Іваноўскі**

*Дзень Волі ў беларускамоўным садочку*

# Сьвята дзяцей

**Уявіце сабе звычайны менскі двор. Заціснуты паміж стандартных шматпавярховікаў дзіцячы садок. Якіх у горадзе сотні. У двары гуляюць зусім маленькія дзеці. Якія на выгляд таксама нічым не адрозьніваюцца ад сваіх аднагодкаў-менчукоў. Незвычайнасьць выявіцца, толькі калі прыслухацца да іхнай гаманы. Дзеці гавораць міжсобку па-беларуску. Напэўна, некаторыя зь іх яшчэ нават ня ведаюць, што размаўляюць менавіта па-беларуску, бо яны пачалі гаварыць зусім нядаўна. Проста іх першымі ў жыцьці словамі былі «мама», «тата», «жэжа», «гаўчык», «кіцісь» і «бомчык-бомчык». На шафках гэтых дзяцей у садку — іхныя імёны. Ян-Дамінік, Злата, Марцін, Адэля, Ружана, Бася, Караліна... Гэта ўсё ня фікцыя і не праформа. Гэта створаная з ініцыятывы бацькоў адзіная беларускамоўная група ў беларускай сталіцы – дзе, у адрозьненьне ад Івенца і Альшанаў, Ракава і Рымдзюнаў, расейшчына на расейшчыне едзе і расейшчынай паганяе.**



*Калісьці я ня ведаў слова сьмерць. Я ўмеў паказваць на пальцах, колькі мне гадоў, не ўкладаючы ў гэтую пантаміму ніякага сэнсу. Мне здавалася, што я жыў заўжды й не памру ніколі. Мой сьвет тады абмяжоўваўся вуліцай, дваром і дзіцячым садком. Дзе я абзавёўся першымі ў сваім жыцьці сябрамі, зь якімі любіў гуляць у будаўнікоў. Памятаю нават іхныя імёны. Таму, ідучы напярэдадні Дня Волі ў гэты садок, я не сумняваўся, што супольная мова зь дзецьмі знойдзецца лёгка й нязмушана. Бо якая гэта асалода — слухаць мову людзей, што зьбіраюцца жыць вечна.*

**«Як цябе зваць?**

— Ян-Дамінік.

**— Ведаеш, што ў цябе незвычайнае імя?**

— Ведаю.

**— Табе гэта падабаецца?**

— Так".

**"Ты ведаеш, у якой краіне жывеш?**

— У Менску.

**— Табе падабаецца твая краіна?**

— Падабаецца.

**— А чым?**

— Чым? Я чароўная фэя, я па лясах хаджу, таму што яна мне падабаецца.

**— А ты была ў іншых краінах, Аліна?**

— У Крыме была.

**— І што лепш — Крым ці Менск?**

— Крым і Менск.

**— Ну калі б ты выбірала, ты дзе хацела б жыць, у Менску ці ў Крыме?**

— У Менску. Я лекавала б там усіх дзяцей. Я б была чароўнай фэяй. І ў мяне б быў чароўны кіёчак».

**«Хто з вас быў у вёсцы?**

— Я!

**— Ты была ў вёсцы?**

— Ыгы.

**— І дзе табе больш падабаецца, у вёсцы ці ў горадзе?**

— У горадзе!

**— Чаму?**

— Тут больш дамоў, тут лепш. Бо там водзяцца цыганы. Крадуць куры, што хочаш робяць".

**"Як цябе зваць?**

— Глеб.

**— А ты ўжо вырашыў, кім ты будзеш у жыцьці?**

— Інжынэрам.

**— А чаму інжынэрам?**

— Буду зарабляць грошы.

**— А інжынэры ў нас зарабляюць грошы вялікія?**

— Так. Добры інжынэр зарабляець».

**«А ты калі-небудзь бачыла беларускі сьцяг?**

— Бачыла. Я нават сталы бачыла. Сьцяг белалускі.

**— І які табе больш падабаецца, стары ці новы?**

— Новы.

**— І якіх ён колераў?**

— Бела-чылвона-белы".

**"Што ў цябе ёсьць?**

— Паляўнічы пісталет!

**— Ты што, хочаш быць паляўнічым?**

— Так.

— (Тата: А раскажы, як цябе арыштоўвалі, хто цябе арыштоўваў.)

**— Як цябе арыштоўвалі?**

— Мянты. Тату алыштоўвалі.

**— І што, і цябе забіралі?**

— Не. Я плакаў.

**— І было страшна?**

— Так. Там былі дзядзькі. Налуцнікі апланалі».

*Памятаю карцінку, бачаную мною ў адным з правінцыйных гарадоў. Нацыянальна сьвядомыя бацькі выхоўвалі сваю дачку ў стэрыльным беларускамоўным асяродзьдзі культурнай сям'і. А далей у дзіцяці быў стрэс. Непадрыхтаванае да рэаліяў, малое трапіла ў звычайную школу. У жорсткі дзіцячы сьвет. І дзяўчынка ператварылася ў замкнёнага, зацкаванага зьвярка. Памятаю, як я тады асуджаў бацькоў. Маўляў, знайшлі, на кім ставіць экспэрымэнты па ажыцьцяўленьні сваіх чыстых ідэяў. Тая сям'я ўжо каторы год жыве за далёкай мяжою. Але пытаньне да бацькоў у мяне ня зьнікла.*

*Пытаюся ў адной з матулек, чаму яна аддала сына менавіта ў гэты дзіцячы садок.*

"Мы беларусы, і хочам, каб наша дзіця размаўляла на беларускай мове й ведала беларускую мову. Вось толькі пагэтаму.

**— А Вы як маці не баіцёся магчымых складанасьцяў пасьля — у школе, напрыклад?**

— Будзем спрабаваць знайсьці школу беларускамоўную. Каб ён і далей знаходзіўся ў гэтым асяродзьдзі. Мы ж усё-ткі беларусы. У сябе мы тут павінны... Калі мы тут ня будзем размаўляць на беларускай мове... аб чым можна размаўляць далей?

**— Як Вы думаеце, ці будзе беларуская мова ў будучыні мець імідж прэстыжнай, элітарнай?**

— Мы толькі спадзяемся пакуль на гэта. Гэта ўсё залежыць ад нас".

**"Як Вы думаеце, гэтая беларускамоўнасьць можа набыць рысы нейкай прэстыжнасьці гадоў за пяць-дзесяць?**

— Я думаю, што й зараз гэта ўжо ёсьць. Я думаю, што прыходзіць гэты час.

**— Як у маці, наколькі я разумею, у Вас няма хваляваньняў, што будуць нейкія праблемы ў вашага дзіцяці псыхалягічнага кшталту, калі будзе школа...**

— Не. Няма ніякіх. Я ўпэўнена, што гэта будучыня нашых дзяцей. І яны яшчэ за сябе пастаяць. І за мову».

*Пытаюся ў выхавацелькі, як ёй гэтая група, ці яна цяжэйшая, чым астатнія групы гэтага садка.*

"Ёсьць некаторыя складанасьці. Па-першае, у некаторых сем'ях усё ж такі бацькі размаўляюць па-расейску. Вось такія праблемы былі. Але потым дзьвюхмоўе пачало адыходзіць на другі плян. Дзеці размаўляюць на беларускай мове. Нават папраўляюць сваіх бацькоў. Псыхалягічны момант... Я б не сказала, што гэта такая праблема. Толькі што рознаўзроставая група».

*Сапраўды, гэтыя дзеці ня робяць уражаньня людзей, у якіх ёсьць псыхалягічныя праблемы.*

**"У цябе ёсьць любімыя кніжкі ці мульцікі?**

— Мульцік? Я сама ператвараю ў мульцік. Можаш паглядзець, калі хочаш. Я сама магу ператварыцца ў мульцік. Каля альтанкі..."

**"Ты кім хочаш стаць, калі вырасьцеш?**

— Лазбойнікам.

**— Разбойнікам? А чаму разбойнікам?**

— У мяне будзе пісталет і меч.

**— І каго ты будзеш рабаваць?**

— Яго буду лабаваць і яго буду лабаваць.

**— Дык гэта ж твае сябры, хіба не?**

— Неа.

**— А хто гэта?**

— Гэта салдаты.

**— Салдаты? А ты салдат?**

— У-у. Я не салдат, а лобат".

**"Колькі табе гадоў, Каралінка?**

— Пяць.

**— У якой ты краіне жывеш?**

— Бералусь.

**— А якія ў цябе любімыя цацкі, мульцікі?**

— "Жыцьцё жукоў". У мяне многа мульцікаў. У нас ёсьць відык. Дык там што хочаш выбіраеш. То «Алісу ў краіне цудаў», то «Болта», то «Гісторыю цацак».

**— А ты любіш глядзець тэлебачаньне?**

— Люблю, калі штосьці там ёсьць цікавае.

**— А што для цябе цікавае?**

— Ну, мульцікі...

**— А ты разумееш расейскую мову?**

— Разумею.

**— Тут жа ў вас ёсьць групы расейскія ў садзіку. Як вы зь імі сябруеце?**

— Мы зусім зь імі не размаўляем, ніяк. Не.

**— А чаму вы зь імі не размаўляеце?**

— Я ня ведаю.

**— А дзе працуюць твае бацькі?**

— У офісе.

**— А чым там людзі займаюцца?**

— Пішуць на кампутарах, друкуюць розныя паперы.

**— А ў цябе ёсьць нейкія мары ў жыцьці?**

— Мая мара схадзіць у "Макдональдз" на Дзень народзінаў.

**— Каб ты была чараўніцай, што б ты зьмяніла ў нашай краіне? Што б ты зрабіла?**

— Сагнала б Лукашэнку зь месца. Бо ён кепска кіруе краінай".

*Не за гарамі той час, калі сьвет гэтых малых разбойнікаў пачне пашырацца далёка за межы гэтага двара, гэтага гораду й гэтай краіны. Ёсьць у мяне ўпэўненасьць, што дзеці гэтай групы ня згубяць адзін аднога ў далейшым сваім жыцьці. У якое напоўніцу ўступяць недзе ажно ў 30-х гадах нашага стагодзьдзя. Калі мы ўжо будзем старымі людзьмі. А некаторых з нас, уявіце сабе, ужо ня будзе на гэтым сьвеце. Але ад гэтай думкі мне чамусьці ня робіцца сумна. Бо ў нас сапраўды ўсё толькі пачынаецца. Гэты маленькі калектыў можна назваць як заўгодна. І інкубатарам будучай эліты, і рэальным пачаткам адраджэньня нацыі. Каб у гэтай ідэі быў сьветлы працяг, ад нас патрабуецца ня так і многа. Ня даць гэтым людзям узяць пад сумнеў шчырасьць нашых словаў і справаў. Ня даць падставы для зьяўленьня недаверу ў гэтых вачах. Тады не на адной нашай вуліцы будзе сьвята. І, можа, значна раней за 30-я гады.*

**Зьміцер Бартосік**

## прэзыдэнт — 2001

### меркаваньне экспэрта



АЛЕНА АДАМЧЫКА

**ДОМАШ**

*Як Вы ацэньваеце ход перадвыбарнае кампаніі на мінулым тыдні?*



**УЛАДЗІМЕР РОЎДА, палітоляг:**

Дэмакратычныя кандыдаты наўрад ці аб'яднаюцца - занадта розныя іхныя палітычныя плятформы. Ганчарык, Казлоўскі і Чыгір - прыхільнікі левацэнтрысцкай ідэалёгіі, Домаш - правацэнтрыст. Найбольш магчымы варыянт - удзел у выбарах двух дэмакратычных кааліцыяў. Ідзе працэс палітычнае інтэграцыі. Да левацэнтрыстаў хіліцца Леванеўскі. Сініцын робіць стаўку на расейскія палітычныя колы. Іншыя кандыдаты таксама намагаюцца калі не атрымаць падтрымку, дык хоць бы забясьпечыць нэўтралітэт Расеі ў адносінах да сябе. Масква ж па-ранейшаму падтрымлівае Лукашэнку.

На мінулым тыдні Мясьніковіч заявіў, што выбары адбудуцца ўвосень. Значыць, Лукашэнка хоча пасьпець давесьці сярэдні заробак у дзяржсэктары да 100 даляраў. Нарэшце ёсьць нейкая пэўнасьць (калі зноўку не падмануць), кандыдаты могуць плянаваць кампаніі і маюць час, каб падрыхтавацца.

# Малдова ў цемры

**У сераду ўвечары поўнач Малдовы ахінула цемра. Некалькі местаў на 18 гадзінаў засталіся без электрычнасьці. Дэпутат-камуніст Валянцін Драган адразу заляментаваў: "дывэрсія". Сьпікер Яўгенія Астапчук (таксама камуністка) лічыць, што праблема ў тым, што людзі ня маюць, чым плаціць за сьвятло. З чаго пачнуць малдоўскія камуністы: з пошуку "шкоднікаў" ці падвышэньня ладу жыцьця свайго народу?**

У малдоўскім парлямэнце ходзяць чуткі: кажуць, што камуністы адновяць перад будынкам парлямэнту (былым ЦК кампартыі Малдовы) помнік Марксу і Энгельсу, пераймянуюць праспэкт Стэфана Вялікага і плошчу Вялікага нацыянальнага сходу ў праспэкт і плошчу Леніна ды да 22 красавіка (зьезду партыі камуністаў Малдовы і 131-й гадавіны з дня нараджэньня чырвонага дыктатара) перавязуць туды з ВДНГ помнік "правадыру".

25 лютага Малдова ператварылася ў палігон для "чырвоных" – камуністы перамаглі на датэрміновых парлямэнцкіх выбарах, атрымаўшы 71 месца ў парлямэнце з 101. Малдова, у адрозьненьне ад Беларусі, парлямэнцкая рэспубліка, і, атрымаўшы кантроль над парлямэнтам, камуністы гарантавана забясьпечылі сабе ўладу на бліжэйшыя гады. Дзеля таго, каб абраць прэзыдэнта, патрэбны 61 голас, 68 – дзеля зьмяненьня канстытуцыі, 51 – дзеля прызначэньня ўраду.

На мінулым тыдні парлямэнтары абралі сабе сьпікера, дакладней – сьпікерку Яўгенію Астапчук. Камуністычная большасьць галасуе адзінагалосна, і Яўгенія атрымала 72 галасы. Нічым асабістым яна раней не вылучалася – відаць, камуністы хочуць мець паслухмянага сьпікера. Спн.Астапчук адразу выдала першую партыйную абяцанку-цацанку: "Мы так уздымем эканоміку, што ў кожнай малдаванскае гаспадыні на кухні будуць стаяць аўтаматы".


Думітру Дзякаў

Яўгенія зь беларускім прозьвішчам прыйшла на месца Думітру Дзякава, чалавека, які быў цесна зьвязаны зь Беларусяй. Раней у Малдоўскім унівэрсытэце не было факультэту журналістыкі, і кіраўніцтва МССР адсылала "найлепшых зь лепшых" вучыцца на журфак БДУ. Быў сярод іх і Дзьмітры Дзякаў. Малдаване вучыліся старанна, а Дзьмітры нават падпрацоўваў перакладчыкам падчас спаборніцтваў па барацьбе, калі ў БССР прыяжджала дужа моцная на той час румынская зборная. Вярнуўшыся на радзіму, ён крыху "малдаванізаваў" сваё ймя ды даслужыўся да сьпікера. Іншыя малдаване з БДУ таксама пазаймалі важныя пасады на радыё ды тэлебачаньні, у газэтах.

Пасьля чырвонага рэваншу іншыя фракцыі парлямэнту знаходзяцца ў лёгкім трансе – камуністы ставяцца да "Альянсу Брагіша" (былога прэм'ера, чыя кааліцыя атрымала толькі 19 мандатаў) ды Хрысьціянска-Дэмакратычнае Народнае Партыі (11 месцаў у парлямэнце) па прынцыпе "не жадаеце супрацоўнічаць – ня трэба, бяз вас абыдземся". Ніхто не сумняецца ў тым, што 4 красавіка прэзыдэнтам Малдовы парлямэнт паставіць камуніста Уладзімера Вароніна. Журналісты зарыентаваліся хутчэй за апазыцыянэраў, зразумеўшы, што толькі марнуюць свой час на паседжаньнях парлямэнту, бо ён ператварыўся ў вярхоўны савет савецкіх часоў. Галоўнае – прысутнічаць на пленумах ЦК ПКМ, чые рашэньні дублююцца дэпутатамі. Бліжэйшы час пакажа, ці застанецца Малдова незалежнаю, ці памкнецца на вараным кані ў белрасейскі саюз.

**Алесь Кудрыцкі**



# МіГі і мафія

**Скандалы вакол былых беларускіх узбраеньняў, прададзеных у краіны Афрыкі ды Лацінскае Амэрыкі, сталі звычайнай справай.**

Пэруанскі кангрэс дасьледуе факты карупцыі ў атачэньні былога прэзыдэнта, ці не найбуйнейшым зь якіх лічыцца набыцьцё МіГаў у Беларусі, на якой карумпаваныя структуры "наварылі" пад сотню мільёнаў даляраў. Адзін зь МіГаў разьбіўся на мінулым тыдні ў Пэру.

Паводле словаў падпалкоўніка ўгандыйскае арміі Фінэаса Катырымы, праверка самалётаў МіГ-21 ладзіцца з дапамогаю замежных інструктараў, чыё грамадзянства трымаюць у таямніцы. Іншыя крыніцы сьцьвярджаюць, што зробленыя ў Расеі ды прададзеныя Беларусяй у 1998 г. чатыры МіГі былі нядаўна мадыфікаваныя ў Ізраілі. Летась групу ўгандыйскіх пілётаў накіравалі ў Ізраіль, каб яны навучыліся лётаць на МіГах.

Пэруанцам жа МіГі прадавалі праз грамадзяніна Ізраілю Мошэ Ротшыльда, што стала жыве ў Пэру ды працуе прадстаўніком фірмы «Мабэтэк Рэпрэсэнтасьёнэс», якая займаецца перапродажам узбраеньняў і, паводле зьвестак італійскае газэты *La Repubblica*, зьвязаная зь «Лімскім картэлем» ды іншымі структурамі пэруанскае наркамафіі.

**Паводле Радыё Свабода**

# Падарожжа па каралеўскіх месцах

## *Горадня—Кракаў*

Аляксандар Краўцэвіч

Не жадаю вяртаньня БССРаўскай стабільнасьці. Памятаю тое пачуцьцё крыўды і злосьці, якое бывае пасьля выкрыцьця доўгага і бессаромнага падману, перажытае, калі ўпершыню трапіў у Польшчу ў 1992 г. У Любліне зь вялікім зьдзіўленьнем пабачыў, што людзі там тварамі, строямі і захаваньнем вельмі падобныя да гарадзенцаў і зусім не падобныя да масквічоў, сярод якіх я пражыў цэлыя тры гады. А мяне, як і ўсіх беларусаў, ад першай клясы вучылі якраз наадварот, што маскавіты нашыя браты, і менавіта яны вызвалілі нас ад чужынцаў-палякаў! Чаму ж у Любліне, Торуні ці Кракаве пачуваешся вольна і камфортна, амаль як у Горадні, а ў Маскве — быццам адзінокі човен сярод неспакойнага мора? Пасьля першага кантакту з атмасфэрай гарадоў за заходняй мяжой я канчаткова і беззваротна паверыў у пяцьсот год супольнай з палякамі гісторыі, пра якія дагэтуль ведаў толькі з разумных навуковых кніжак.

Зьняцьцё заслоны на заходняй мяжы дапамагло многім беларусам пазбыцца комплексу нацыянальнай непаўнавартасьці. У кантактах з жыхарамі вольнага сьвету выразьней выяўляецца наша гістарычная да яго прыналежнасьць. Са мной гэта адбылося ў Кракаве.

Мой сусед па тамтэйшым інтэрнаце, нарвэжац Айрыён, увасабляе эўрапейскую годнасьць і самапавагу (нават бывалую нашую камэндантку ён пераканаў у неабходнасьці займаць асобны пакой адным сказам — "у нас у Нарвэгіі ўсе маюць асобнае жытло") і адначасова поўніцца да болю знаёмай беларускай унутранай стрыманасьцю. Мне здаецца, што такое спалучэньне годнасьці ды стрыманасьці і ёсьць праўдзівай эўрапейскай мэнтальнасьцю. Але ж не, побач на занятках польскай мовай сядзяць італійцы, на іх і сьледу няма нарвэска-беларускай стрыманасьці, але нікому не прыходзіць у галаву аспрэчваць іх эўрапейскасьць. Працавітыя, як мурашкі, і гасьцінныя, як беларусы, увесь час у руху, яны бяз бачнай напругі могуць гаварыць на чатырох мовах адначасова. Любяць расейскую культуру, але ад расейцаў іх розьніць усё тое ж выразнае пачуцьцё годнасьці, якое выяўляецца ў адказнасьці за свае дзеі і словы, колькі б іх ні вымаўлялася за рэкордна малую адзінку часу. Ангелец Эрык два тыдні як прыехаў у Польшчу, ведае па-польску сорак словаў, але без усякіх комплексаў гаворыць на гэтай мове і дасягае сваёй мэты — мы яго разумеем. З ірляндкай Сарай, якая па-польску ні бэ ні мя, можна паразумецца празь беларускі фальклёр. Паслухаўшы з паўгадзіны нашыя песьні, дзяўчына расчырванелася і пачала сьпяваць у адказ сваё на старажытнай кельцкай мове.

Кракаўскія палякі не падобныя да гарадзенскіх. Зь імі нашмат лягчэй паразумецца, з той простай прычыны, што кракаўскія цябе ставяць за роўнага сабе чалавека. Прыемна хадзіць вуліцамі Кракава, не баючыся, што цябе піхнуць ці аблаюць.



Люблю шум Галоўнага рынку вечарам, калі даходзіш туды пехатой, і кожны вечар шум гэты не падобны да папярэдняга. Асаблівая раскоша тут летам, калі амаль штодня перад старымі крамамі "Сукеньніцамі" адбываюцца розныя фэсты ды канцэрты. Неяк мы з дачкой ішлі ў кавярню падсілкавацца, але натрапілі на эўрапейскі фэстываль дзіцячых танцавальных суполак. Абышлі пляц, стракаты ад рознакаляровых строяў усіх народаў Эўропы, затрымаліся каля македонцаў. Толькі праз чатыры гадзіны згадалі, што былі галодныя.

А беларусаў на гэтым фэстывалі не было. Хоць шлях Кракаў—Горадня, Горадня—Кракаў, шлях ад аднаго каралеўскага места да другога, быў рэгулярным маршрутам паштовай службы, пачынаючы з 60-х гадоў XVI ст., а напамінкі пра Беларусь у Кракаве сустракаюцца на кожным кроку. Выява "Пагоні" на музэі Чартарыйскіх, "Працы Археолёгічнай камісіі" з 20-х гадоў у акадэмічнай бібліятэцы. А ў бібліятэцы Ягелёнскага ўнівэрсытэту ўласнаручны надпіс Мікалая Ўлашчыка на выдадзеных ім тамах беларуска-літоўскіх летапісаў: "Ягелёнцы ад удзячнага чытача". Можа і я сядзеў на тым самым месцы, на якім дваццаць гадоў таму працаваў наш вялікі гісторык.

Зь немкай Верай выбраліся на Ракавіцкія могілкі шукаць магілу Алеся Гаруна. Пасьля дзьвюх гадзінаў блуканьня па самым знакамітым польскім нэкропалі адракліся далейшых пошукаў, вырашыўшы наступным разам пачаць з адміністрацыі. Немка, раздражнёная адсутнасьцю выніку і змарнаваным, на яе думку, часам, больш са мной туды не хадзіла. Праз колькі месяцаў на Дзяды, калі адміністрацыя ад раніцы да вечару выдае інфармацыю ўсім наведнікам, вярнуўся сюды з гарадзенскім сябрам Валодзем Хільмановічам. Кампутар адмовіўся даваць зьвесткі пра Аляксандра Прушынскага, але нашае расчараваньне ніяк не перадалося супрацоўніцы адміністрацыі. Кабета спыталася год сьмерці Гаруна, палезла ў шафу і выцягнула агромністую кнігу за 1920 г. Пасля 15 хвілінаў прагляданьня натрапілі на запіс выцьвілым ад часу атрамантам: "Аляксандэр Прушыньскі, бялорускі ужэнднік войсковы". Узброеныя дакладным плянам могілак з пазначаным крыжыкам месцам пахаваньня паэты, знайшлі дагледжаную магілу з каменем-помнікам (беластоцкія беларусы пастараліся) і дзьвюма запаленымі сьвечкамі. Гэта ўжо тутэйшыя людзі ўшанавалі адзінокую магілу побач з кладамі сваіх блізкіх.

На ўроку польскай мовы на пытаньне выкладчыка, як адчуваю сябе ў Кракаве, адказваю, што амаль як дома, бо тут усюды на відных месцах мае землякі. На Рынку стаіць бронзавы Адась Міцкевіч (ля якога ня раз прызначаў спатканьні), перад уваходам у Вавэльскі замак сядзіць на кані Тадзік Касьцюшка, у Катэдры сьпіць Ягайла недалёка ад свайго сына Казімера. Адным словам, куды ні павернешся — адны свае. Выкладчык трохі сумеўся, а суседзі па партах — немцы, амэрыканцы ды італійцы — доўга высьвятлялі пра Міцкевіча з Касьцюшкам: беларусы яны ці палякі.

Вельмі хутка ў гэтым горадзе адчуваеш сябе праўдзівым эўрапейцам і ўжо эўрапейскімі вачыма глядзіш на двух расейскіх падпалкоўнікаў, якія нетаропка перасякаюць галоўны пляц. Таўставатыя, зь нетутэйшымі нават ня тварамі, а выразамі твараў, у агромністых кашкетах з задранымі да неба вярхамі, яны выглядаюць сярод Кракава дзівоснымі істотамі зь іншага экзатычнага сьвету. Нават выхаваныя кракавякі ня могуць адразу схаваць сваё зьдзіўленьне гэткім відовішчам, што яшчэ больш бянтэжыць бедных расейцаў. Што й казаць пра нас, якія ведаюць... Ведаюць, што значыць для беларусаў, калі шлях Горадня-Кракаў перарваны расейска-бальшавіцкай "жалезнай заслонай". І ведаюць, што заслона цяпер прыўзьнятая, але ня ведаюць, ці надоўга?

**Эсэ напісанае для перадачы "Дазвол на выезд" Беларускай службы Радыё Свабода**



# Стратэгія Зубра

**Калектыў беларускай Опэры з жарам абмяркоўвае нечуваную падзею: падчас спэктаклю "Баль-маскарад" нехта з публікі раскідаў улёткі з здымкамі Андрэя Клімава, Юр'я Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Зьмітра Завадзкага. Здымкі суправаджаліся тэкстам "Яны ня ходзяць у тэатар", праўда, па-расейску, і лягатыпам арганізацыі "Зубр".**

Сьпявачцы Тамары Глаголевай, якая ў той вечар знаходзілася ў глядзельнай залі, падалося, што таямнічыя выканаўцы гэтага ўчынку – заўзятыя аматары опэры. Інакш немагчыма растлумачыць, якім чынам яны папярэдне вызначылі найстасоўнейшы момант для ажыцьцяўленьня сваёй задумы. Яны купілі месцы на бальконе, дачакаліся г.зв. "чыстае перамены", калі на сцэне мяняюць дэкарацыі, і акурат у гэтую хвіліну кінулі ўніз вялізны стос улётак. Кінулі, зрэшты, ня надта ўмела – амаль увесь стос абрынуўся на цэнтральную частку партэру. Магчыма, віною таму была якасьць паперы, бо цэлы наклад быў надрукаваны на грубых аркушах фармату А4. Гэтым улёткам відавочна не ставала чыста фізычнай улётнасьці. Аднак яны зрабілі сваю справу. "Калісьці я была знаёмая з Ганчаром асабіста, – сказала мне адна з опэрных салістак. – Мне папросту не прыходзіла да галавы, што ён загінуў. Я думала, ён зьехаў кудысьці на Захад... Гэтыя ўлёткі бадай што ўпершыню прымусілі мяне задумацца над тым, што адбываецца ў краіне".

Зрэшты, многія артысты, асабліва тыя, хто ня мае беларускіх каранёў, ставяцца да ўлётак рэзка нэгатыўна. "Гэта хамы! – верашчала ў калідоры нейкая цётухна з тэатральнае абслугі. – Хто ім дазволіў раскідваць у залі брудную паперу? Яны ж перашкаджалі спэктаклю!"

Між тым, уся соль акцыі заключалася ў дакладным выбары часу. Спэктакль сам сабою на хвілінку прыпыніўся, сцэна адгарадзілася заслонаю, у залі панавала суцэльная цемра – якая, дарэчы, дапамагла ўдзельнікам пратэсту захаваць сваё інкогніта. І тутака паляцелі ўлёткі.

У панядзелак на афіцыйным "зуброўскім" сайце, амаль цалкам расейскамоўным, апублікаваная інфармацыя, што аналягічныя акцыі адбыліся ў сталічнай музкамэдыі, на гастрольным спэктаклі "Сябрыны актораў Таганкі" і ў памяшканьні Магілёўскага тэатру. Прычым самі "зуброўцы" найбольш ганарацца сваімі подзьвігамі ў Магілёве: тамтэйшы тэатар нядаўна адчыніўся пасьля капрамонту, што доўжыўся – страшна прамовіць! – дзесяць гадоў. Нічога дзіўнага, што гараджане валам валяць у падноўлены храм мастацтваў і квіткі разьбіраюць за тры тыдні да спэктаклю.

"Баль-маскарад" – гэта опэра пра забойства караля. Ці, у звычным для нас варыянце, скалечаным колішняю італьянскаю цэнзураю, – опэра пра забойства губэрнатара. Забойцаю апынуўся найлепшы сябар "добрага тырана"...

**Юлія Андрэева**


УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

# Паўсядзённасьць і рэальная апазыцыйнасьць

**Хацелася б адгукнуцца на рэдактарскі ўступ да маёй "Хронікі сямі гадоў", зь некаторымі палажэньнямі якога я ня згодны.**

Дазволю сабе спачатку нагадаць абзац з рэдактарскай калёнкі. *"...гэта хроніка палітычнае апазыцыі рэжыму Лукашэнкі, а не культурнага супраціву і не "гісторыі паўсядзённасьці"...Хроніка палітычнае гісторыі непазьбежна загрузае ў бясконцых мітынгах, пікетах і шэсьцях... Гісторыя паўсядзённасьці непазьбежна цяплейшая, чым хроніка газэтных падзеяў".* Пра культурны супраціў мне палемізаваць ня хочацца: я ўсё ж гісторык, а не культуроляг. Менавіта культуроляг мусіць разабрацца, якая падзея ў мастацкім ці літаратурным жыцьці вартая хронікі, а якая не. Я толькі выбіраў найбольш значныя і цікавыя. І быў бы вельмі ўдзячны, каб хто з нашых шаноўных культурнікаў узяўся за такую справу і зрабіў хроніку культурнага супраціву рэжыму.

А на прабleme супраціву ў паўсядзённасьці хачу спыніцца. Паўсядзённасьць – гэта жыцьцё зь першаснымі жаданьнямі, якое ня тычыцца палітыкі. Гэта як падзеі апошняй вайны ў Беларусі. Тут савецкія партызаны, там польскія, там – немцы, а пасярэдзіне беларускі селянін, якому ўсе роўна, хто ім будзе кіраваць. Абы даў зямлю і спаганяў чым меншыя падаткі. Апрацоўка зямлі – гэта паўсядзённасьць.

Як ні круці, а ў нас пакуль існуе супраціў прэзыдэнту з боку палітычнай апазыцыі, бо яна ёсьць сапраўдным народам. А той, каторы цёгаецца па вуліцах у п'яным выглядзе і лушчыць семкі, – гэта не народ. Гэта шэрая маса, якая не цікавіцца ні палітычнымі падзеямі, ні мовай, якой усё роўна, хто ёй кіруе.

Тое, што прэзыдэнта лаюць у транспарце, на кухні ці расьпісваюць сьцены гасламі "падазронага зьместу", – гэта яшчэ не супраціў. Уяўляеце, як будзе глядзецца наступны пункт хронікі: *15 ліпеня ў тралейбусе №2 шэсьць разоў быў аблаяны прэзыдэнт.* Ці: *На кухні ў грамадзяніна Т. быў жорстка зьнявечаны партрэт прэзыдэнта.* Гэта не супраціў, а нелюбоў да ўлады ў кухонных умовах.

Два гады таму выйшла кніга "Дэмакратычная апазыцыя Беларусі", дзе звычайныя кухонныя ці кабінэтныя размовы, пабытавыя п'янкі 1956-1988 гг. падаваліся як праявы дысыдэнцтва, з чаго дзівяцца нашыя заходнія і ўсходнія суседзі. І я, каюся, таксама прыклаў да гэтага руку. Баюся, каб такое не паўтарылася і з апазыцыяй Лукашэнку. Тое, што Лукашэнку аблаялі ці напісалі верш пра тое, як гіне беларуская мова, гэта яшчэ не супраціў. Быў бы прэзыдэнтам Пазьняк ці Чыгір, на пабытовым узроўні лаялі б іх. Але далей лаянкі справа ня йдзе, трэба пераступіць нейкую мяжу, якая аддзяляе звычайную штодзённасьць ад сапраўднага супраціву.

Беларусь сёньняшнюю, безумоўна, нельга параўнаць з гітлераўскай Нямеччынай. Маштабы ня тыя, але для нагляднасьці – гэта найлепшы прыклад. Супраціву фашыстам сярод немцаў у паўсядзённасьці было больш, чым дастаткова. Там спалілі партрэт Гітлера, там абсьвісталі прамову Гёбэльса, там падчас сьвята ня вывесілі фашыстоўскага сьцяга. Нейкі Вэрнэр лаяў Гітлера з 1939 да 1945 г., а ягоныя суседзі Шульц і Маер – з 1935 г. па 1945 г. Але адна справа плюнуць у партрэт Гітлера, а другая – спаліць гэты партрэт на Аляксандарпляц. І таму ў сьпісе змагароў з фашызмам няма ні Вэрнэра, ні Шульца, ні Маера. Аднак ёсьць Нэмёлер, Брандт, Штауфэнбэрг і хлопцы з "Чырвонай капэлы". Бо яны зрабілі крок, які аддзяліў іх ад звычайнай пабытовасьці і паўсядзённасьці.

Так, апазыцыйнасьць заключаецца ў канкрэтных справах, а не ў кухонных размовах. А беларусы былі заўсёды моцныя такімі размовамі: у 1918, 1920, 1939, 1991 г. Куды ні кінь вокам, паўсюль супраціў у паўсядзённасьці. А вынік?

Чытаючы ўспаміны беларускіх нацыянальных дзеячоў пра верасень 1939 г., дзівішся: усе яны адмоўна ўспрынялі савецкую акупацыю Заходняй Беларусі. Усе цішком лаялі савецкіх акупантаў. Але ніхто ня выказаўся гучна, ніхто не падняў зброі, як палякі ў 1939-м ці літоўцы ў 1940-м. У 1944 г. нацыяналісты таксама бачылі, што адна акупацыя зьмяняецца іншай, але хто рэальна пайшоў у лес ці ў падпольле змагацца з саветамі? Лічаныя сотні. Іншыя ці сышлі на Захад, ці адседзеліся.

Яскрава ілюструе гэтую сытуацыю апавяданьне Васіля Быкава "Народныя мсьціўцы", героі якога хочуць адпомсьціць былому чэкісту Вусаву, але ўрэшце, збаяўшыся, разьбягаюцца.

Гучна ляснуць дзьвярыма, як гэта зрабіў Куранкоў, – яшчэ не супраціў. Супраціў пачынаецца тады, калі гэтымі дзьвярыма каго-небудзь прыцісьне. Бо ў такім выпадку трэба заносіць у сьпіс змагароў з рэжымам і Плескавіцкага, і Сініцына, і Віньнікаву. А яны ж ніякія не апазыцыянэры. Гэта асабіста пакрыўджаныя рэжымам людзі. І тое, што выбух пад Слуцкам узяло на сябе Беларускае Вызвольнае Войска, яшчэ ня сьведчыць пра апазыцыйнасьць. Што такое Беларускае Вызвольнае Войска? Яно яшчэ неяк заявіла пра сябе? Можа гэта былы "вітушковец" па старой памяці падрывае камунікацыі. Як ня ёсьць супрацівам запрашэньне ў тэлестудыю дзеячоў апазыцыі. Праграма "Крок" узору канца 90-х ніколі не была апазыцыйнай, улада сама праз сваю недальнабачнасьць зрабіла яе такой.

Прыканцы паўтару адну цытату. *"Гісторыя паўсядзённасьці непазьбежна цяплейшая, чым хроніка газэтных падзеяў".* Я згодны. Але каб хроніка была цяплейшай, трэба пісаць яе па гарачых сьлядах. Падзеі 2000 г. мусяць фіксавацца ў 2000 г., 2001-га – у 2001 г., дый не ў газэтным фармаце. Бо, безумоўна, зь цягам часу адчуваньні прытупляюцца, і зьбіваешся на сухія факты. І тут нават патрэбны не *звычайны гісторык,* а летапісец, які б фіксаваў падзеі адразу, прапускаючы праз сябе, праз свае адчуваньні. Але хто схоча стацца летапісцам?

**Алег Гардзіенка**

# Пачуцьцё радзімы

Яшчэ ў часы тэрміновай службы ў савецкім войску я зьвярнуў увагу на надзвычайна моцную нацыянальную сьвядомасьць прадстаўнікоў каўкаскіх народаў. Іхнае веданьне сваёй гісторыі, свайго радаводу, шанаваньне роднай мовы, згуртаванасьць, пачуцьцё ўласнай годнасьці выклікала ў мяне часам непрыхаваную зайздрасьць. "Чаму ж мы, беларусы, не такія?"–з горыччу разважаў я. Адукацыя, атрыманая ў школе, або армейскія палітзаняткі не давалі адказу на гэтае пытаньне. Часта вечарамі, седзячы ў капцёрцы або ў ленінскім пакоі, я слухаў аповеды чачэнцаў, кабардзінцаў, лезгінаў, а таксама агульцаў, рутульцаў пра іхны край, іхны лад жыцьця...

Калі больш уважліва зірнуць на Каўказ, можна ўбачыць, што большасьць народаў, якія жывуць там, або зусім колькасна нешматлікія, або ўнутры сябе падзяляюцца на шмат субэтнасаў. Перад каўказцам ніколі не паўставала пытаньня: "Хто я?" Кожны чачэнец ведаў, што ён, перш за ўсё, частка свайго тэйпу, кожны лезгін ведаў, што ён, перадусім, частка свайго хашалу, а ўжо потым кожны зь іх усьведамляў сябе прадстаўніком усёй нацыі.

У вялікім калектыве чалавеку вельмі цяжка ўсьвядоміць сваё "Я". Ён разважае катэгорыямі большасьці і з асобы ператвараецца ў кавалачак натоўпу. У такога чалавека няма жаданьня займацца самаўдасканаленьнем, бо трэба ж быць "такім, як усе". Ён жыве вузкаэгаістычнымі інтарэсамі, напрыклад, марамі пра танную кілбасу. Ён ня можа мець любові да "свайго" народу, бо ў гэтым выпадку панятак "народ" для яго зьяўляецца абстрактным і малазразумелым.

Прадстаўнікі невялікіх этнасаў даволі моцна зьвязаныя паміж сабой. Іх яднае ня толькі супольная мова і культура, але і сваяцкія сувязі і, што самае галоўнае, адзіны дух. Прадстаўнік такога народу адчувае сваю асабістую адказнасьць за ягоную будучыню. Ён прыкладае намаганьні ня толькі дзеля таго, каб удасканаліць самога сябе (у спорце, навуцы, літаратуры...), але й каб уславіць свой родны край і тых людзей, што яго насяляюць. Таму на Каўказе духоўныя дзеячы, навукоўцы, літаратары ва ўсе часы карысталіся найвялікшай павагай, тады як беларусы апошнім часам давялі сваю творчую інтэлігенцыю да жабрацкага стану.

Выбітны расейскі мысьляр Бярдзяеў пісаў: "Нямеччына была... вяршыняй эўрапейскай культуры не тады, калі яна была імпэрыяй Бісмарка, а тады, калі складалася зь невялічкіх дзяржаваў. Вялікая культура Грэцыі была зьвязаная зь невялічкай дзяржавай. Вялікі творчы ўздым Адраджэньня ў Італіі зьвязаны з пэрыядам яе раздробленьня".

З 1817 па 1860 г. расейскія акупанты зьнішчылі больш за 90% чачэнскага народу. Але чачэнцы, дзякуючы таму, што здолелі захаваць свой падзел на тэйпы, ня толькі выжылі, але й захаваліся як нацыя. Зь беларускім народам адбылося іначай.

Зьвярнуўшы ўвагу на мапу адміністрацыйнага падзелу ВКЛ у XVI ст., заўважыш, што межы ваяводзтваў не на 100%, але ж вельмі супадаюць зь межамі дыялектных зонаў, пазначаных на *"Карте Белорусского племени"* Яўхіма Карскага. Гэты факт, а таксама беларускі мясцовы патрыятызм XVIII ст. (Кіркор і Смоліч згадвалі, што многія беларусы называюць сябе палешукамі, віцьбічамі, тураўлянамі і г.д.) даюць падставы меркаваць, што падзел на субэтнасы існаваў у старыя часы і ў нашага народу. Менавіта гэтым быў выкліканы ўздым беларускай культуры ў XVI–XVII ст. Але вайна 1654–1667 гг. ня толькі зьнішчыла большую частку насельніцтва ВКЛ і ўсю гаспадарку. Яна разбурыла родавыя сувязі й ператварыла ўсе субэтнасы ў адзіны маналіт – ліцьвінаў. (Ня столькі нацыянальную, колькі грамадзянскую прыналежнасьць.) Перастаўшы быць віленчукамі, барысаўчукамі, людзі перасталі аддзяляць сябе ад іншых, што, дарэчы, зьяўляецца найважнейшай умовай існаваньня нацыі. Таму ў далейшым яны страцілі нацыянальную сьвядомасьць і, як вынік, вельмі часта зьмянялі свой назоў: "рускія" і "палякі" (маючы на ўвазе канфэсійную прыналежнасьць), проста "тутэйшыя", беларусы і, урэшце, "савецкія людзі".

**Сяржук Пятровіч, Барысаў**

# Хіба

**Памылка, нават дробная, часта выклікае вялікую блытаніну – асабліва калі вядзецца пра істотныя рэчы. Нездарма слова "грэх" адпачаткова пазначала памылку, хібу, якая вядзе чалавека да згубы.**

У лісьце Натальлі Базылевіч, дзе распавядалася пра "пераменаўскае" сьвяткаваньне Дня сьв.Валянціна, я заўважыў адну памылку, якая сталася кропкай адліку ў разважаньнях аўтаркі. Насамрэч, сардэчкі зь біблійнымі цытатамі, што раздаваліся ўдзельнікам шэсьця, абменьваліся на АЎДЫЁКАСЭТУ "Море каханьня" - БЕЗ аніякіх дадаткаў. Гэта ДНЁМ РАНЕЙ, 13 лютага, у клюбе "Акварыюм" Беларуская Музычная Альтэрнатыва разыгрывала такія касэты ў камплекце з "гумкамі". Пісаць абвяржэньне тады я не палічыў патрэбным — быў упэўнены, што большасьць чытачоў "НН" альбо на свае вочы бачыла сьвята, альбо ведала пра ўсе акалічнасьці з мэдыяў.

Выявілася - дарма. У наступным нумары зьявіўся водгук Сержука Пятровіча з Барысава. Ізноў – разважаньні з памылковым пасылам.

Любыя мае браты й сёстры! Калі ласка, пільнуйцеся праўды. Несьвядомыя хібы й "здагадкі" часам больш небясьпечныя за яўныя памылкі. Хто хоча даведацца, што Малады Фронт робіць ува Хрысьце – прыходзьце на сустрэчы, пачуеце САМІ. Чытайце выпускі маладафронтаўскага "Весьніка", артыкулы й праграмы – і пабачыце САМІ. У пачатку красавіка (сачыце за абвесткамі) у нас чарговая канфэрэнцыя "Хрысьціянскай ініцыятывы". Завітвайце. І – крыху цярпеньня – каб часам перапытаць, патэлефанаваць, удакладніць. "*Цярплівасьць жа мае дасканалае дзеяньне, каб вам быць дасканалымі ва ўсёй паўнаце, без аніякае пахібы*" (Якуба, 1:4).

**Зь любоўю, Павал Севярынец**


IREX-PROMEDIA



Карыкатура з выставы мастакоў суполкі "Пагоня".

# Хацелася, але і калолася...

Уладзімер Содаль

**Бацька беларускай філялёгіі, першы беларускі акадэмік Яўхім Карскі ўсё сваё жыцьцё прысьвяціў вывучэньню нашай мовы. Яго працы (перш за ўсё шматтамовае дасьледаваньне "Беларусы") сьцьвярджалі нашую нацыянальную ідэю, незалежнасьць, самабытнасьць. А вось грамадзкая пазыцыя аўтара "Беларусаў" была неадназначная. Хістаньні Карскага заўважалі яшчэ ягоныя сучасьнікі. Дамо ім слова.**

Язэп Лёсік. З водгуку на кнігу Яўхіма Карскага "Белорусская речь", выдадзеную ў Петраградзе ў 1918 годзе: "Кніжка гэта цікавая; шмат прынясе карысьці кожнаму інтэлігентнаму беларусу, але, чытаючы яе, трэба памятаць, што аўтар усё яшчэ глядзіць на беларускую мову як падмову маскоўскага языка. Ён, напрыклад, ахвотна згаджаецца і навучна вам давядзе, што сэрбская, польская і чэская мовы асобныя, але беларуская і ўкраінская — гэта ўжо маленькія галінкі мовы велікарускай (маскоўскай). Ён яшчэ да гэтага часу разглядае беларускую мову як нейкага блуднага сына, адшчапенца, каторы доўгі час бадзяўся на чужыне і папсаваў сваю мову.

Праф. Е.Ф.Карскі — з навукі прыхільнік маскоўскага цэнтралізму. Гэтакіх людзей многа выгадавала маскоўская палітыка. Паважаючы іх за іх працу, мы не павінны хаваць аб іх праўды".

А вось што піша пра Яўхіма Карскага назіральны і дасьціпны Гальяш Леўчык у лісьце да Івана Луцкевіча за 4 (17) ліпеня 1911 г.: "...Ну і цікавы зь яго, аднак, экзэмпляр, наколькі я мог яго пазнаць!.. Зусім ён мяне зьдзівіў, асабліва знаньнем беларускай бібліяграфіі. Ад яго я шмат чаго даведаўся.

Калі ён не махлюе, ды духам не ўпадзе, і будзе ісьці крэпка, то сьмела можна сказаць, што вялікую карысьць ад яго мы можам мець і аграмадную ўслугу ён калісьці Беларусі прынясе! Шкада, што нямаш яму як там у Вільні альбо ў Варшаве пакуль што аперціся, каб матэрыяльна яму было лягчэй, а то, бедны, зусім ужо вытрасься!.. Я яму крыху памог, але далей трудна!

Але, здаецца, ён не махлюе, а кажа праўду".

Запомнім гэтыя словы: "Калі не махлюе, ды духам не ўпадзе".

Леўчыкава "калі", на вялікі жаль, не пакідала Карскага да канца ягоных дзён. Адзін Карскі актыўна рваўся да грамадзкага жыцьця, да дзяржаўнага ўладкаваньня Беларусі, другі тут жа пры найменшым выпрабаваньні азіраўся па баках: а ці туды ён ідзе?


Яўхім Карскі

Вось якім убачыў Карскага Макар Краўцоў у сьнежні 1917 г., падчас разгону бальшавікамі Ўсебеларускага зьезду: "З маестатычнай павагаю сярод прэзыдыюму ўзносіцца фігура прафэсара Карскага...

...Вазіла брыкнуў назад галавою... Прыкінуўся ці запраўды самлеў...

Страшэнны гоман і мітусьня... Рэзаўскі абвяшчае Зьезд распушчаным, а Прэзыдыюм яго арыштаваным. Тым часам урываюцца ў салю азброеныя салдаты Рэмнёва і, разыходзячыся направа і налева, стараюцца ахапіць Зьезд". Пра Карскага тут усяго толькі адзін сказ, але які ён характэрны, выразны! Мы, мусіць, ужо ніколі не даведаемся, што ў тую хвіліну думаў прафэсар. Абураўся? А мо шкадаваў: навошта зьвязаўся з гэтымі сэпаратыстамі, нацыяналістамі?!

Але тая сьнежаньская зьбянтэжанасьць хутка мінулася, і ўжо ў красавіку 1918 г. мы бачым прафэсара акруговым начальнікам асьветы Беларускай Народнай Рэспублікі. Сакратарыят асьветы даручыў яму разам з Доўнарам-Запольскім распрацаваць праект статуту першага ўнівэрсытэту ў Менску. Апроч таго, Карскі быў і правадзейным сябрам Інстытуту беларускай культуры, а ягоныя друкаваныя працы па тым часе мелі вагу падручнікаў.

Але мінаў час, зьмяняліся палітычныя варункі, і слынны вучоны пачаў сумнявацца ў будучыні нашага народу і яго мовы. Калі аднойчы, яшчэ студэнтам, я прачытаў пра гэтыя сумненьні Карскага, дык разгубіўся. Мне не паверылася, што гэта ён, волат філялягічнай навукі, які ўсё жыцьцё паклаў на алтар беларушчыны, мог такое сказаць. І мабыць, я не памыліўся. Мусіць, быў нейкі ідэалягічны змус. Але з гэтага мне не зрабілася лягчэй. Я пакутаваў за Карскага, за ягоныя словы. Пазьней я даведаўся, што праз гэта пакутаваў і Арсень Ліс. У сваёй прадмове да кніжкі "Браніслаў Тарашкевіч" ён пісаў: "Прызнанаму вучонаму штосьці перашкаджала да канца пераадолець пэўныя погляды афіцыйнай навукі ў дачыненьні да беларускай мовы, беларускага народу, пэрспэктывы яе разьвіцьця".

Гэтым "штосьці", мусіць, якраз і была тагачасная ідэалёгія. Перакананы, калі б наша дзяржаўнасьць разьвівалася натуральна, бяз шкодных для яе зыгзагаў, Яўхім Карскі быў бы першым і сталым яе будаўніком. А так і ён, маючы за плячыма такі навуковы грунт, пры канцы жыцьця зрабіўся пэсымістам. Якраз гэтага і баяўся Чыжык Беларускі — Гальяш Леўчык, кажучы "калі духам не ўпадзе". Значыцца, штосьці хісткае ў пазыцыі прафэсара ўсё ж такі было, і гэта трывожыла ягоных сучасьнікаў. Яны хацелі бачыць слыннага вучонага гарманічнай асобай як у навуцы, гэтак і ў грамадзкім жыцьці. І ён да гэтага імкнуўся, але гэта яму, на жаль, не заўсёды ўдавалася. Мусіць, на тое была свая прычына. І не адна.

Абдумваючы гэтыя нататкі, я зазірнуў у нашы энцыкляпэдыі й даведнікі. Не шукайце там зьвестак пра ўдзел Яўхіма Карскага ў Першым Усебеларускім Зьезьдзе, пра яго супрацоўніцтва з урадам Беларускай Народнай Рэспублікі, пра ягоныя грамадзка-філялягічныя хістаньні. Пра гэта, мусіць, напішуць ужо энцыкляпэдысты наступных пакаленьняў.

## БАГУШЭВІЧ І КАРСКІ

Пошук сувязяў паміж Багушэвічам і Карскім выглядае цалкам лягічна, калі згадаць, што абодва атрымалі адукацыю ў Нежыне, пасьля жылі ў Вільні. Францішак Багушэвіч прыехаў з Украіны ў Вільню ў 1884 г. Роўна праз год сюды прыехаў і Карскі, таксама з Украіны. І пражыў у Вільні (на вуліцы Полацкай у доме гаспадара Гундрызэра) аж восем год — з 1885 па 1893 год, выкладаў там расейскую і стараславянскую мовы. Гэтаю парою жыў у Вільні і аўтар "Дудкі Беларускай".

Вядома ж, выкладчык другой віленскай гімназіі Яўхім Карскі чуў пра новага віленскага адваката, які бясплатна бараніў абяздоленых. Але ведаць, чуць – гэта адно, а асабістыя сувязі, кантакты – зусім іншае. Ці былі яны між Карскім і Багушэвічам?

Мажлівасьць такіх кантактаў была. Скажам, з 1892 г. Вільня пачала рыхтавацца да IX зьезду археолягаў. З гэтай нагоды быў створаны Віленскі аддзел камітэту па арганізацыі згаданага зьезду, куды, паводле "Памятной книги Виленской губернии на 1892 год", быў уключаны і Яўхім Карскі. На тым зьезьдзе яму належала быць таварышам сакратара.

Цікавіўся зьездам і Францішак Багушэвіч. 9 сакавіка 1892 г. увечары ён пісаў Яну Карловічу ў Варшаву: "Даўно ўжо абвясьцілі пра зьезд археолягаў, думаюць раскопваць і Замкавую Гару, але хто запрошаны зь Літвы, ня ведаю; калі знойдуць, дык хіба такіх, што маюць розныя старажытныя формы ў прозьвішчы і гэтым не чужыя археалёгіі".


Яўхім Карскі ў маленстве

Яўхім Карскі, жывучы ў Вільні, выдае адну за адной кніжкі па мове. У 1886 г. — "Обзор звуков и форм белорусской речи" і "Грамматику древнего церковно-славянского языка сравнительно с русским". У 1888-м — дасьледаваньне "К истории звуков и форм белорусской речи". Францішак Багушэвіч нібыта адчуваў прысутнасьць у Вільні такога філёляга, як Карскі. Менавіта ў тыя гады ён марыў пра граматыку беларускай мовы, нават усклікнуў у сьнежні 1891 г.: "А можа, хтось і граматыку накрэмзаў бы?"

...Хтось. Хто ж гэты хтось? Да каго скіравана Багушэвічава парываньне? Не да Карскага. Яны хоць і ведалі адзін пра аднаго, чулі, візуальна былі знаёмыя, але не шукалі шляхоў зьбліжэньня. Дужа па-рознаму яны разумелі жыцьцё. Яны нібыта рабілі адну і тую ж справу, але Багушэвічу зь ягонымі клопатамі пра беларушчыну даводзілася таіцца, працаваць нелегальна, свае кніжкі друкаваць за межамі Беларусі. Карскі ж гэтага нічога ня зьведаў. Ён спакойна сабе працаваў, выдаваў том за томам. Ягонай працай афіцыйна апекаваліся, яе фінансавалі дзяржаўныя ўстановы. Значыцца, хоць абодва думалі і дбалі пра Беларусь і беларусаў, але неяк парознаму пра іх яны думалі. Відаць, погляд Карскага на беларускі народ быў сугучны афіцыйнаму кірунку. Багушэвічаў погляд ішоў уразрэз зь ім. Гэта было тое галоўнае, што стрымлівала Багушэвіча ад зьбліжэньня з Карскім, хоць яны і жылі ў адным горадзе, хадзілі аднымі і тымі сьцежкамі. Багушэвіч сачыў за працамі Яўхіма Карскага. Карскі ж, мусіць, аж да пачатку XX ст. і не здагадаўся, што віленскі адвакат Багушэвіч і аўтар "Дудкі Беларускай" — адна і тая ж асоба. Гэта нават падкрэсьлена ў трэцім томе "Беларусаў": "Штуршок беларускаму руху дала выдадзеная ў Кракаве ў 1891 г. на беларускай мове кніжачка Мацея Бурачка (псэўданім Францішка Багушэвіча)... "Дудка Беларуская". Кніжачка Бурачка к пачатку нашага стагодзьдзя стала вядомая ўсім, хто цікавіцца разьвіцьцём беларускай самасьвядомасьці".

А вось што піша пра магчымыя кантакты Багушэвіча з Карскім Апанас Цыхун, дасьледчык творчай спадчыны слыннага вучонага:

"У сваёй навуковай дзейнасьці Я.Карскі падтрымліваў цесную сувязь з польскім этнографам і фальклярыстам Янам Карловічам, які зьяўляўся самым блізкім сябрам Ф.Багушэвіча, матэрыяльна яму дапамагаў. Яны разам некалькі разоў наведвалі пісьменьніцу Э.Ажэшку ў Горадні. Ян Карловіч падтрымліваў цесную сувязь зь Я.Карскім, вёў зь ім перапіску, апошні дасылаў Я.Карловічу літаратуру, розныя дапаможнікі. Магчыма, праз Я.Карловіча Ф.Багушэвіч асабіста быў знаёмы і зь Я.Карскім, але гэта трэба даказаць".

Зьвяртаўся я ў 1981 г. і да дасьледчыка творчай спадчыны Карскага Віктара Баркоўскага. Тым больш, ягонаю жонкаю была дачка Яўхіма Карскага Натальля. Адказ быў кароткі і лякенічны.

"На жаль, ня ведаем, ці стракаўся Ф.Багушэвіч зь Я.Карскім, былі яны знаёмыя ці не. Нічога пра Ф.Багушэвіча Я.Карскі не расказваў».

Вядома, для навукі мо ня так гэта ўжо важна: зналіся Багушэвіч з Карскім ці не. І ўсё ж для чалавеказнаўства цікава: чаму два такія выбітныя беларусы жылі ў адным горадзе, рабілі адну і тую справу, а шляхоў да зьбліжэньня не шукалі? Відаць, у кожнага зь іх была свая Беларусь. Кожны зь іх ладзіў яе па-свойму, ішоў да яе сваім шляхам і быў перакананы, што шлях гэты адзіны праўдзівы.

## МАПА ЯЎХІМА КАРСКАГА

Пускаючы ў сьвет першы том "Беларусаў", Яўхім Карскі, з чыста навуковых меркаваньняў, дадаў да яго і "Этнаграфічную мапу беларускага племя". Ён не здагадваўся, што яна хутка спатрэбіцца палітыкам. Калі ў першай чвэрці мінулага стагодзьдзя беларусы атрымалі рэальную мажлівасьць аднавіць сваю дзяржаўнасьць, гэтая мапа сталася магутнай падмогай у палітычных спрэчках зь нядобразычліўцамі. Прыкладам, акадэмік Гаўрыла Гарэцкі згадваў, што Аляксандар Чарвякоў у Смаленску заўсёды меў пры сабе мапу Карскага. Ён насіў яе, складзеную ў колькі столак, у бакавой кішэні. Як толькі якая спрэчка з расейскімі палітыкамі, дык ён за гэтую мапу: "Вось глядзіце, тут чорным па белым пазначаны межы Беларусі! І ня мною гэта прыдумана і зацьверджана, а расейскімі вучонымі".

А этнаграфічныя межы на мапе

# “Kriwi”

**Сынгл.**
**(p) Machno, Kriwi, Belpunkt, 2000.**

Добрая работа. Яна годна працягвае тое, што “Крыві” заявілі ў папярэднім альбоме. З той толькі розьніцай, што на гэтым дыску больш увагі надаецца “пазаштатнаму” музыку Масуду Талібані.

Ён удала ўпісаўся ў “Крыві”, ягоны голас і курдзкія мэлёдыі дадалі фарбаў ды своеасаблівасьці і пры гэтым аніяк не паўплывалі на ідэалёгію гурту. Дастаткова паслухаць песьню *“Neremnerem”*, каб атрымаць сапраўднае задавальненьне, нават калі ты — прыхільнік выключна славянскай інтэграцыі. Голас Масуда, як кропелька мёду, дражніць у кодзе песьні “Ўсе лугі”, а ў песьні “Ў цябе, у мяне” курдзкая народная мэлёдыя спалучаецца зь беларускай і таксама не выклікае пярэчаньняў. Зрэшты, курды і беларусы з аднае рабрыны створаныя, так што ніякага дысанансу быць і не павінна.

Што ж да самога дыску, хачу адзначыць: хіба ўпершыню я сустрэўся з выпадкам, калі можна даволі дакладна вылучыць працу ды-джэя. Звычайна, яны, бы тыя п’яўкі, прысмоктваюцца да песьняў і псуюць іх, называючы гэта творчасьцю. DJane Дэльта надзвычай тонка надала песьні “Сьвякроў” рысачкі, якія дазваляюць лічыць яе не спаскуджаным варыянтам, а новым прачытаньнем. Слухаць цікава.

Калі гэтыя запісы будуць пашыраныя да фармату паўнавартаснага альбому, ён, цалкам магчыма, перасягне ўсё тое, што было выдадзена “Крыві” раней.

**Сынгл-мэн СЛУХАЧ**

# “Уліс”

**“ПАДАРОЖЖА”.**
**(p) “Ковчег”, 2000.**

Як ведаў: падарожжа па сьцяжынах сьвядомасьці Славы Кораня выдалася нялёгкае, але пераканала ў тым, што верныя прыхільнікі ў ягонага “Ўлісу” будуць і надалей. Ужо хаця б таму, што іншага гукавога ўвасабленьня песьні Славы Кораня ніколі ня будуць мець. Гэта — плюс. Але нейкі такі крышачку мінусовы.

Дзіцячую чыгунку ведаеце? Чым яна ад дарослай адрозьніваецца, здагадваецеся? Там цягнік рухаецца выключна па коле. Адна паездка — адно падарожжа. Другая паездка — тое самае падарожжа. У трэцяе ехаць ужо ня хочацца.

Далібог, ня маю ніякага жаданьня крыўдзіць Славу Кораня, бо ягоную апантанасьць разумею не як адсутнасьць магчымасьці выказацца па-іншаму, а як сьвядомы выбар. Музыка — рэч надзвычай дэмакратычная. Вось “Уліс” сёньня гучыць так — на здароўе! Можна слухаць, а можна не.

Музыцы сёньняшняга “Ўлісу” яўна бракуе зьмены настрояў. Ну хоць бы дзе які нюанс, ну хоць бы за што нечаканае вуху зачапіцца! Гэта як па Беларусі ехаць — скрозь калгасы ці то імя Суворава, ці то імя Клары Цэткін. Экзотыка яшчэ тая!

На згаданым альбоме Корань праставіў двух “кантралёраў” — бонус-трэкі песьняў “Краіна ў кратах” ды “Краіна доўгай белай хмары” з пэрыяду клясычнага “Ўлісу”. Іх плюс быў у выразнай мэлёдыцы, сьпеўнасьці, чаго сёньняшняму “Ўлісу” якраз не стае.

Але Слава Корань з тых, хто абавязкова дойдзе да загадзя вызначанага пункту, як з А — у Б. Цікава, чым станецца “Ўліс” у пункце Я, пры канцы падарожжа, перапыняць якое я не заклікаю ані-ані!

**БезьБілетны СЛУХАЧ**

# Ірына Дарафеева

**“РАНО ИЛИ ПОЗДНО”.**
**(p) “Студия Ирины Дорофеевой”, 2000.**

Нашыя эстрадныя зоркі ня так і часта выдаюць дыскі. Мо таму, што збольшага ўсе яны — зоркі адной-дзьвюх песень, зь якіх альбом скласьці праблематычна.

Дарафеева за тры гады выдае ўжо другі. Гэтым разам ён запісваўся ў Менску, а тыражаваўся на новым кіеўскім заводзе з чыста ўкраінскай назвай *“BoliDisk”*. Выдатнае афармленьне, разнастайны рэпэртуар, арыентаваны, у адрозьненьне ад першага альбому, найперш на замежную аўдыторыю. Усе песьні я ўмоўна падзяліў на дзьве часткі: звычайныя і творы “з будучыні”.

Шлягеры Дарафеевай — не маскоўскія чупа-чупсы, што пішуцца на адзін капыл. Гэта сапраўды песьні, больш удалыя ці менш, але не прымітыўныя. Вось што-што, а прымітыў у творчасьці Ірыны наўрад ці знойдзеш. *“Улетай”*, *“Наша тайна”*, *“Музыка ночи”* зь неверагодна густоўнымі бэкамі “Камэраты” — гэта, як кажуць “прасунутыя” музычныя крытыкі, “моцныя” песьні, якія Дарафеевай пасуюць. Не пасуюць *“Век рок-н-ролла”* и *“Каравай”* – “дажынкавы” рэпэртуар, які не суадносіцца з абліччам сьпявачкі.




Задумаўшыся над будучыняй, разумееш, што тая Ірына Дарафеева, якая за год “пакрывае” турам амаль усю Беларусь, — гэта яшчэ зусім ня тая Дарафеева, якой яна можа быць. Пра гэта сьведчыць, напрыклад, *“В темноте”* аўтарства Ўладзімера Высоцкага — твор у беларускай папсе цалкам нечаканы. Тэмбр голасу Дарафеевай тут незвычайны, быццам бы заціснуты падземным пераходам. Заяўка на будучыню. Гэтую заяўку падтрымлівае й загалоўная песьня *“Рано или поздно”*, з рэпэртуару колішняга “Сузор’я”, тэкст якой з-за прэтэнзіяў аўтаркі Вэранікі Долінай быў перапісаны прад’юсэрам Юр’ем Савашам.

Найбольш удалыя нумары праграмы — гэта “Азярцо” і *“Баллада”* Дзьмітрыя Даўгалёва. Калі маеце патрэбу адчуць розьніцу паміж папсой беларускай і расейскай — пастаўце гэтыя песьні.

**Дарафейнуты СЛУХАЧ**

# Ядвіга Паплаўская і Аляксандар Ціхановіч

**“ОТ “МАЛИНОВКИ” И ДО...”.**
**(p) “Bulba Records”, BR 008, 2001.**




Вось каго ўжо не варухнецца рука крытыкнуць, дык гэта Ядзю ды Сашу. Хіба што ўпікнуць за асабістае абяцаньне Аляксандру Рыгоравічу, што наступным разам на ўрадавым канцэрце фанаграма ня спыніцца. Але ж — ад сэрца абяцаюць! Іншы б там пачаў апраўдвацца, а Саша сказаў усё, як было. Вось за тое і люблю іх: за праўду, за аўтэнтычнасьць, кажучы вумна.

Таму першы альбом нашага бульбянога лэйблу з заяўленай “Залатой лініі” беларускай эстрады крытыкаваць рука не падымаецца.

Галоўны і найбольш істотны плюс гэтага дуэту ў тым, што Паплаўская зь Ціхановічам ніколі нікому ня хлусілі, а значыць, шкоды не рабілі. У кожнай песьні яны такія, якімі ёсьць: не апранаюць чужых лахманоў, не маскуюцца пад цьвікоў чарговага сэзону, не хаваюцца ў хмызы нібыта актуальнага аранжаваньня. Калі можна ў дачыненьні да эстраднай песьні ўжываць такі тэрмін, як “шчырасьць”, — дык гэта якраз пра Сашу зь Ядзяй.

Для прыхільнікаў памяркоўнай, прыемнай, вельмі чалавечнай песьні без хлусьні ды танных эфэктаў, гэты альбом — прэзэнт аптымальны. Музыка ня модная, а, як кажуць, на ўсе часы. “Мідл ов зэ роад” таго, што завецца “сучасная беларуская эстрада”. І ня варта думаць, што сярэдзіна — гэта тая самая каляіна, зь якой вылецець немагчыма. Сярэдзіна ў Паплаўскай ды Ціхановіча — гэта найперш безумоўны прафэсіяналізм – рэч, якую за малыя грошы не набудзеш.

**СЛУХАЧ з Малінаўкі-6**

# “Песьняры”

**“2001”.**
**(p) “Ковчег”, 2001.**




Зь вялікім хваляваньнем чакаў я гэтага альбому: падзел творчае спадчыны і аўтарытэту “Песьняроў” ня мог не адбіцца на творчасьці. На вялікі жаль, я не памыліўся: альбом расчароўвае і не дазваляе спадзявацца на рэінкарнацыю таго, што хутчэй памёрла, чым жыве.

У “2001” увайшлі як новазапісаныя вэрсіі “клясыкі”, так і адносна новыя песьні. Не абышлося і бяз пэўных недарэчнасьцяў. Так, на ўкладцы пазначана, што “Песьняры” перамаглі на IV Усесаюзным конкурсе артыстаў эстрады, тады як ансамбль атрымаў там другое месца. На адным са здымкаў Мулявін сфатаграфаваны побач з басістам Мікалаем Няронскім, які, відаць, сам ужо забыўся, калі граў у “Песьнярах” і насіў гэтакі хаер. А вось сёньняшні склад гурту на парадным здымку далёка ня поўны. Рэшта, мусіць, не зьмясьцілася. Я б на месцы Вадзіма Касэнкі, напрыклад, пакрыўдзіўся...

Пачынаецца альбом славутай “Спадчынай”. Першая рэакцыя — што з галасамі?! Вакал абсыпаецца, як старая тынкоўка са столі. Скаражонак запявае ў “Марысі” і, што называецца, не знаходзіць зь песьняй супольнай мовы, хоць у наступнай (*“Беловежская пуща”*) ягоны голас натуральна кладзецца на мэлёдыю. Многія песьні, перазапісаныя для гэтага альбому, зьмяніліся мінімальна. А перавыдаваць практычна тое самае, што ўжо некалі выдавалася, — па меншай меры неінтэлігентна. Час ідзе, ягоныя павевы адбіваюцца на запатрабаваньнях аўдыторыі, модзе, і, урэшце, на сьвядомасьці саміх выканаўцаў, таму новае прачытаньне старой песьні — гэта неабходнасьць. Колькі разоў можна падсоўваць нашаму прасьцяку тое самае?! Я разумею: сэру Макартні ня трэба сёньня па-іншаму сьпяваць *“Yesterday”*, але ж то, па-першае, *“Yesterday”*, а не *“Любовь, комсомол и весна”*; па-другое, сэр усё адно штогод сьпявае крышку іначай. “Песьняры” ж імкнуцца паўтарыць усё дакладна, як было некалі. Крыху зьмянілі ў “Чырвонай ружы” рытмічную аснову, і ўсё. Але “няма таго, што раньш было”...

Ёсьць праблемы і з агульным гучаньнем галасоў (*“Наши любимые”*, напрыклад), і з галасамі асобных салістаў. За гады быцьця ў Амэрыцы Барткевіч мог бы навучыцца выразна вымаўляць у “Александрыне” складанае спалучэньне “ля млына”. Няўдала гучыць ягоны голас і ў “Алесі”: такая манера ўспрымаецца сёньня як здабытак архіву. Цалкам згубіўся ў альбоме Анатоль Кашапараў, які калісьці прадбачліва памяняў Волагду-гду на Амэрыку. А там давялося выбіраць: альбо піцай займацца, альбо вакалам. А зь піцай у роце сьпяваць складана. Відаць, спатрэбіўся Кашапараў сёньняшнім “Песьнярам” выключна дзеля імя на вокладцы.

Такое адчуваньне, што альбом літаральна “ляпіўся” з таго, што было пад рукой: ні пра якую кампазыцыю казаць не даводзіцца. І, як вынік, трапілі туды творы зусім ніякія. Прычым “ніякі” — гэта яшчэ камплімэнт у дачыненьні да Лучанковай “Паляны” – такога сабе прымітыву тыпова “маскоўскага” фармату. Сола ў ёй вядзе гітарыст былога рок-гурту *“Thanks You, Jesus”* Сяргей Мядзьведзеў. Слухаеш і нібы адчуваеш, як яму сорамна гэткае гэ... (гіт, значыць) сьпяваць.

Патрапіў у альбом і тыпова савецкі “разгуляеўскі” шлягер *“Теща”*, аздоблены спробай сучаснага “а ля Ўсход” аранжаваньня. Нібыта саліст Павал Заяц тую песьню ўласнай цешчы прысьвяціў. Гэты твор можа найбольш яскрава характарызаваць узровень калектыву. Аж Янка з Алёнаю на рацэ далёка ад сораму да ракаў у госьці кінуліся...

А вось песьні В.Шарапава — “Ля замкавай гары” і “Ой, княжна” з тых, на якіх “Песьняры” маглі б паспрабаваць узьняцца з попелу. Яны незайграныя і арыгінальныя, як і “Сівы голуб” Ігара Паліводы, які лішні раз пацьвярджае неабыякі кампазытарскі талент заўчасна памерлага музыкі.

Гатовы зьняць перад сп.Мулявіным капялюш, схіляючыся перад ягоным даробкам для беларускае культуры. Гатовы нават паверыць, што ягоная пранізьлівая “Малітва” на словы Янкі Купалы выконваецца шчыра. Але на фоне “Паляны” ды *“Тещи”* яна ўспрымаецца як гульня на высокіх пачуцьцях.

Мулявіна дарма чакалі на апошняй “Рок-каранацыі”, каб менавіта яму ўручыць прыз як лідэру найлепшага беларускага ансамблю стагодзьдзя. Не прыйшоў. Больш маладыя могуць яго ўжо ніколі не паклікаць...

**Няўсьцешчаны СЛУХАЧ**

## анонс



“У горад лепш прыяжджаць засьветла, каб не натыкнуцца на вострыя калочкі кабылінаў, што паўсюль перагароджваюць праезд па вуліцах ды подступ да брамаў, ня збочыць у якую лужыну дый увогуле не спаткацца зь невядомым ліхам. Бо ноччу — цёмна, вусьцішна. Удзень жа зусім прасьцей, асабліва ў такім месцы, як Менск. Падыміся на якое ўзвышша, а найлепш на тое, галоўнае, дзе ратуш, дый азірніся ва ўсі бакі, пэўна не заблукаеш. Усюды, як дастаць вокам, бачны менскі краявід: рэчкі ў нізіне і стары замак ў засені земляных валоў, рынкавы пляц, далей татарскі канец з мячэцьцю ў атачэньні балотаў наўсьцяж. Сапраўды канец. Зьлева дамкі, сады, агароды ды дарога на Ракаў. Справа — Траецкая гара. Відаць адсюль і Пярэспу.

Горад аточаны з усіх бакоў уi рослым ажно ў сярэдзіну лесам, з плешкамі зялёных гораў і пагоркаў. Места, куды прыпаўзаюць вужакі, дзе ў мокрадзь пахне грыбамі, дзе чуваць лясныя рыкі.

Затое тут, на Высокім месьце, ногі цьвёрда стаяць на бруку. Тут няма рызыкі зваліцца ў якую яму або спатыкнуцца аб глыжак. Тут іншы спазор і іншы рух. Зазьвіняць званы ў храмах, склікаючы на малітву, і разаб’ецца натоўп на шматлікія ручаіны і пацякуць яны, “па вуліцах для людзей парубленых”, кожная ў свой бок: ва ўніяцкую Казьмы і Дзям’яна, ці ў касьцёл на Траецкую гару, у эвангелісцкі Збор, што ў бок Койданава, ці то ў праваслаўную царкву апосталаў Пятра і Паўла, на Нямігу. А як пакажа сонца ў небе ды гадзіньнік на ратушы свой пэўны час, так і засьпяшаюцца жыхары кожны па сваіх патрэбах. Хто на рынкі і ў крамы, хто ў замкавую канцылярыю, у цэх на працу, хто ў аптэку ці на млын...”

**Гісторыя штодзённасьці старадаўняга Менску, якім ён паўстае з судовых кніг, у новым эсэ Вольгі Бабковай “Менск” – у адным з наступных нумароў “НН”.**

# Славамір Адамовіч

* * *

...А не для гномікаў партыі ‑
для сябе здабываю Свабоду,
каб жыла яна ў сэрцы, упартая,
каб зьнішчала плябейства пароду.

Свабода мая ня кніжная,
ня тая, калі ўсё, што хочацца,
можна рабіць і пыжыцца,
і лярвай у ложку варочацца.

Свабода мая вызвольная
ваўчыцай цяжка параненай
выходзіць з лагва падпольнага
і ўецца незаарканенай.

Свабода мая Беларуская
крывёю чыстай крывавіцца
і стужкай вузенька-вузкаю
сьцякае па белай правіцы...

## Белы марш

Марш-марш, нас тысячы,
рукі ў замок,
воляю трызьнячы,
мераем крок.
Юныя, моцныя
цяглiцы плеч.
Мы паўнамоцныя,
іншыя ‑ прэч!
Воды расталыя,
вецер з Дняпра.
Зь верай паўсталыя,
крыкнем: "Ура!"
Мокра на дворышчах,
сьветла ў душы,
ворагаў зборышчы
сьмела крышы.
Гэй жа, зьвязовы,
хутчэй запявай
песьню маршовую
за родны Край!

## Асацыяцыі

**у кантэксьце "беларускага пытаньня", выкліканыя пільным позіркам незнаёмкі на адным паліталягічным сэмінары**

Свой позірк скрыжаваўшы нечакана
з тваім, я схамянуўся і заціх,
я зьнік, застыў, нібыта ўзмах чаканам,
нібы асадкі капілярны штрых.

Імгненьне, два ‑ і з дна неспадзяванкі
іду на позірк твой, нібы на штык,
і мроіцца мне сьмех філістымлянкі,
і акіян барбарыянскіх пік.

"Хто ты?" ‑ шапчу, а нехта працілеглы
суседу шэпча пра нябачны мур,
пра якасьць бруку, вэртыкалі цэглы
і беларускі *некашэрны* жур.



# в а р ш т а т ы

### Алесь АРКУШ

* * *

усе стамляюцца
але адпачыць
ня ўсім выпадае

* * *

у новым стагодзьдзі
плянуеш пачаць новае жыцьцё
ды раптам высьвятляецца
пражытых гадоў
немагчыма пазбыцца

нібы дакучлівая мэлёдыя
яны перахоўваюцца ў таемных глыбінях
тваіх засьмечаных глуздоў
і ты мусіш зьмірыцца
з прыкрай недарэчнасьцю
што глузды ‑ не дыван
які можна вытрасьці
і ня лямпачка
якую лёгка замяніць

таму сьвяці
сваім звыклым напалам
пакуль не перагарэў
або не адключылі электрычнасьці

*ВЫБАР*

у беднай краме
цяжка што-кольвечы прыстойнае выбраць

у беднай краіне
як у беднай краме
малы выбар

*НАСЬЛЕДАВАНЬНЕ*

чаго толькі ні абяцаў мне
маляўнічы месяцовы вечар

спакою не абяцаў
шчасьця не абяцаў
посьпеху не абяцаў

бо не ад яго тое залежыць

*НІЗКАЯ РЭНТАБЭЛЬНАСЬЦЬ*

цэлую ноч дзьмуў вецер
але ня вырабіў нават кілявату

* * *

тры дні дый тры начы
пісаў верш
а на раніцу чацьвертага
нарадзіўся першы радок:

— Вы кажаце: надта пяю я нявесела...

* * *

калі прыйшла зіма
і выпаў сьнег
я ўбачыў вакол сваёй хаты
процьму сьлядоў

дзіва
а я думаў
што мой хутар
бязьлюдная выспа

### Ян ДЗІВАСІЛ

*ГЭЙ!*

Трубадуры, дзьміце ў трубы,
марш Свабоды выдзімайце!
Цішыня пакоры ‑ згуба.
Памятайце: вы ‑ на варце!
Абуджайце край зьнямелы
ад зямлі да паднябесься.
Хай над бел-чырвона-белым
сьцягам
залунае песьня,
сэрцу любая, як бусел,
як валошка ў сьпелым жыце...
Трубадуры Беларусі,
дух змагарскі пакажыце!

*НЕСПАКОЙ*

Падчас вялікіх
адкрыцьцяў-цудаў
сумнеў на сэрцы
біблейскім каменем:
ня стаўся б сябар
прадажным Юдам,
а брат старэйшы ‑
зайздросным Каінам.

### Міхась КАЛЯСЯНЕЦ

*НОЧ КАХАНЬНЯ*

**В.Н.**

Ноч зьбіралася на дождж.
Насоўваліся хмары.
Сыноптыкі пужалі навальніцай.
І напаўзала ноч
прывідам боскай кары.
Пярун гульнуць наважваў бліскавіцай.

І дождж пайшоў, але
адразу ж і спыніўся.
Ледзь грымнула на небе і заціхла.
Вятрыска пашалеў
і ў лісьцях прытуліўся.
Маланка мільганула неяк сьціпла.

Між хмарамі ў акне
пусьціў Юпітэр промні.
Закрасаваўся месяц паўнатвары
і зьзяў усё мацней.
Ласкалі яго скроні
мільярды зор, прарэзваючы хмары.

І хмары ў касмылях
Рассоўваліся спраўна,
нібы заслона тэатральнай сцэны.
І слухалі мы, як
маўчыць Сусьвет бяскрайні,
любуючыся намі ў захапленьні.

### Раман СТАНКЕВІЧ

*ІНТЭГРАТАРАМ*

Беларусь "маршыруюць" на ўсход,
Падганяюць, прысьпешваюць, цягнуць.
Быў цароў, бальшавіцкі прыгнёт,
Ды чамусь яшчэ братняга прагнуць.

Каб хутчэй растварыцца ўшчэнт
У суседзкай "супольнай" прасторы,
Парушынкай згубіцца ўмамэнт
У чужацкім стракатым віхоры.

І пішчом лезуць у дружбакі,
Прыхапіўшы Радзіму з сабою,
Каб падставіць дурныя бакі
Пад чужыя "сямейныя" бойкі.

Каб зьнішчалі магілы дзядоў,
Каб глумілі дзядоўскія гоні,
Каб імпэрыя правіла зноў,
Каб тапталі наш Сьцяг і Пагоню!

Трохі больш за стагодзьдзе прайшло,
Як прыгонным калісь волю далі,
Але, гляньце, як рабства ўрасло ‑
У ярмо, як быдла, паўсталі.

Толькі марныя вашы спадзевы,
Што сканаў беларускі наш дух!
Ветру вольнага веюць павевы,
І наш Сьцяг мы ня выпусьцім з рук!

### Усевалад зь Вялейкі

*ВІНШАВАЛЬНАЕ*

Зь зімовым сьвятам, Вас, панове!
Хай будзе ўсё, як мае быць.
Каб год наступны не ў размове,
А ў працы дбайнай нам пражыць.
Каб вам пілося і ялося,
Каб смутак ‑ толькі на Дзяды,
Каб грошай трохі завялося,
Хмяльныя каб цяклі мяды.
І каб у хату вашу госьці,
І шчасьця вам ды весялосьці,
і крый вас, Божа, ад бяды.



# Магіла Крышталевіча

ЭСЭ

Сяргей Паўлоўскі

**Забыты беларускі пісьменьнік XIX ст. Васіль фон Роткірх пад псэўданімам Тэабальд апісваў усялякія незвычайнасьці з тагачаснага віленскага і — шырэй — беларускага жыцьця. У прыватнасьці, Роткірх прысьвяціў некалькі апавяданьняў віленскаму дзіваку Яцку Крышталевічу, вулічнаму імправізатару вершаў. Прычым у расейскамоўных апавяданьнях Крышталевіч нязьменна гаворыць пабеларуску. Адна толькі гэтая постаць гарадзкога блазна пачатку XIX ст. цалкам зьмяняе звыклае ўяўленьне пра тагачасную беларускую культуру — нібыта спрэс сялянскую, сантымэнтальную і прымітыўную.**

Сучасьнік Крашэўскага і Сыракомлі, Яцак Крышталевіч быў пахаваны ў 1840 г. на Бэрнардынскіх могілках, на Зарэччы. Зарэчча — гэта найстарэйшае віленскае прадмесьце, якое ад сёньняшняга старога гораду аддзяляюць рэчка Вялейка і сем мастоў церазь яе. Тым ня менш, Зарэчча — гэта самая Вільня, дзе ня шмат бывае турыстаў, але дзе перахаваўся віленскі дух. Знаўца гораду нябожчык Лявон Луцкевіч казаў, што менавіта на Зарэччы найлепей захавалася беларушчына старой сталіцы Вялікага Княства. Між іншых тут жылі Фэрдынанд Рушчыц, у якога зьбіралася віленская інтэлігенцыя, і слынны беларускі кс. Адам Станкевіч, якога адсюль, проста з кватэры, забраў назаўсёды НКВД.

Вось жа яшчэ напачатку XIX ст. на Зарэччы адкрыліся Бэрнардынскія могілкі. Належалі яны кляштару бэрнардынаў — таму самаму, якому належыць і ўсім вядомы касьцёл Сьв. Ганны. На могілках ляжыць шмат слынных людзей, і кожная культура — літоўская, польская, расейская — адшуквае і згадвае сваіх. Ёсьць тут і беларускія магілы. Яцка Крышталевіча ніводная з гэтых культур за свайго не прызнае. Пакуль што ён застаецца проста віленскім — валацугам і жартаўніком, вар'ятам і ўлюбёнцам публікі, бажаволкам і імправізатарам вершаў.

Розныя выданьні называюць яго па-рознаму — хто Юзафам, хто Ігнатам. Верагодна, гэта з-за таго, што ў ягонай асобе гістарычная пэрсона і літаратурны пэрсанаж сталі аднолькава дастаўернымі.

Распавядаюць, што паэт прыбыў у Вільню з Валыні і, ня маючы ў горадзе нікога, стомлены, заснуў на лаве каля ратушы, а раніцою прачнуўся, пабачыў, што яго абрабавалі, і, ня здолеўшы стрываць гэткага ўдару лёсу, страціў сьвядомасьць. Наіўная гісторыя. І гісторыкі, як правіла, распавядаюць яе са шкадаваньнем. Маўляў, Крышталевіч быў нязлы вар'ят і на пытаньні адказваў досыць дарэчна. Праўда, штосьці ў гэтай наіўнасьці насьцярожвае. Можа тое, што вядомы мастак Канстанцін Кукевіч намаляваў ягоны партрэт, а купец Вэйс, ведаючы папулярнасьць віленскага вар'ята, гэты партрэт сотнямі асобнікаў распаўсюдзіў па ўсім краі і меў з гэтага даход?..



Бэрнардынскія могілкі ў Вільні

* * *

Першыя зьвесткі пра Крышталевіча знаходзім у апісаньні прадпрыемства Юзафа Завадзкага — арганізатара віленскага кнігавыдавецкага і кнігагандлёвага працэсу. Завадзкі так добра паставіў справу, што плацiў ганарар — гэта нязьменна адзначаюць мэмуарысты, а ягоная кнігарня служыла ўвадначасьсе літаратурным салёнам. Адзін мэмуарыст, Станіслаў Мараўскі, згадвае пра зьвязаны з гэтым эпізод свае маладосьці:

«Кнігарня Завадзкага, калі я ўжо пачаў пра яе казаць, была тады *rendez-vous* навукоўцаў, літаратараў, мастакоў, дасьціпнікаў. За вялікім сталом сядзеў сам Завадзкі, каротка стрыжаны брунэт, малы і тоўсты, зь мілым павабным тварам.



Каля вокнаў або пад дзьвярыма з вуліцы стаяў адзін з знаёмых усёй Вільні вар'ятаў: альбо Шурлоўскі, або Крышталевіч, альбо абодва разам. Абодва яны, ні для каго ня шкодныя, сфіксаваныя былі на паэзіі. Бесьперастанку пісалі вершы. І былі вельмі надатныя ў тыя вясёлыя часы. Калі каму ў кнігарні ўдавалася з гэтай нагоды або зь якой плёткі скласьці эпіграмку, вершык, сатырку, а такое здаралася часта, дык гэта зараз жа аддавалася Шурлоўскаму або Крышталевічу, каб запусьцілі гэта ў сьвет, выдаючы за сваё...»

Ацэначны бок гэтых сьведчаньняў не выклікае даверу. Па-першае, легкаважнае стаўленьне аўтара да паэзіі як да вар'яцтва ў прынцыпе, па-другое, заўсёды цяжка ацэньваць сучасьнікаў. Хто вар'ят і графаман — не вызначае часам нават гісторыя. Скажам, польскі паэт Цыпрыян Норвід, сучасьнік Крышталевіча, быў пры жыцьці агульнапрызнаным вар'ятам. Друкаваць яго пачалі толькі пасьля сьмерці, а праз сто гадоў ягоныя вершы пісаў на сваіх лёзунгах польскі прафсаюз «Салідарнасьць». Ідзі тут разьбярыся...

А потым — мова, беларуская мова, у якой нязьменна цытуецца Крышталевіч. Вулічная мова тагачаснай Вільні. Яна настолькі не салённая, не літаратурная, што каб складаць на ёй вершы, трэ было набыць імідж або вясковага лірніка, або вучонага-фальклярыста. Што да зусім урбанізаванай постаці Крышталевіча, дык яшчэ не прыйшоў час. Вось адкуль белая варона, дзівак, блазан у вачох сучасьнікаў.

А дадайце да гэтага інтрыгі паміж літаратарамі, змаганьне за праўдзівую славу і прызнаньне. Зусім нескладана было ў паэтычных колах XIX ст. праславіцца графаманам і вар'ятам. А слава ці няслаўе Крышталевіча разьляталася далёка за межы кнігарні Завадзкага, Вільні і ўсёй тагачаснай Беларусі. Вось гісторыя пра сапсаваныя адносіны Юзафа Крашэўскага з часопісам *«Tygodnik Petersburski»*. У гэтым самым *«Tygodniku»* выйшла зьедлівая рэцэнзія на паэтычную трылёгію Крашэўскага «Анафеляс» *(Anafielas)*. Аўтар рэцэнзіі высьмейваў стылёвую манеру пісьменьніка, граматычныя памылкі, моўнае ўбоства, брак яснасьці і псыхалягічную ненатуральнасьць. Увесь гэты бульдозэрны наезд на клясыка і цяперашняга фаварыта польскіх школьных праграмаў быў падпісаны скаротам «Ф.Кол». Неўзабаве высьветлілася, што Ф.Кол — гэта Ян Чачот. Толькі ягоную рэцэнзію ў *«Tygodniku»* перакруцілі, дадалі ў яе кпінаў, і таму Чачот мусіў выдаць свой арыгінальны тэкст асобнай брашурай — з апраўданьнямі. Але вось дэталь той пецярбурскай рэцэнзіі. Крашэўскі там называецца графаманам, у параўнаньні зь якім Шурлоўскі і Крышталевіч — сапраўдныя пігмэі. Згадзіцеся, такое, хай сабе і прыніжальнае, параўнаньне зь літаратурным карыфэем у пецярбурскім часопісе — нешта значыць.

А потым уявіце сабе, каб вас параўналі з кім-небудзь з шырокае абоймы сёньняшніх графаманаў — нават на вашу карысьць — і вы адчуеце тое, што мусіў адчуваць Крашэўскі да Крышталевіча. І Крашэўскі адпомсьціў. У сваім «Рамане бяз назвы», апісваючы Вільню свае маладосьці, ён згадвае, паміж іншым, як у акадэмічнай кавярні студэнты бавіліся дэклямацыямі праслаўтага графамана Ігната Крышталевіча, амаль сымбалічнай постаці для мясцовага калярыту. Вось так. Кропка.

Працяг нечакана знаходзім у Сыракомлі. Вясковы лірнік і ўлюбёнец публікі, мусіць, таксама пакрыўджаны параўнаньнем з Крышталевічам ці падазрэньнем на такое параўнаньне, піша «Ліст Крышталевіча зь Елісейскіх Палёў да Рамуальда Бараноўскага», а сьледам — «Адказ Бараноўскага на ліст Крышталевіча». І тут вельмі істотны момант! Сыракомля зьдзекаваўся з сымбалю віленскіх вершаплётаў тады, калі Крышталевіча ўжо не было на сьвеце. Жарты жартамі, а трэба мець сур'ёзныя падставы і матывацыі, каб ісьці на такі ўчынак. Біёграфы тлумачаць гэта юначай дурасьлівасьцю Сыракомлі, маладым выбрыкам. Няхай так. Будзем паблажлівымі, як ня раз заклікаў нас ставіцца да сваіх твораў сам Сыракомля.

Але ж вернемся і да першага сьведчаньня — з кнігарні Завадзкага, адкуль Крышталевіч нібыта разносіў падслуханыя імправізацыі і выдаваў іх за свае. Згаданыя вершыкі Сыракомлі сьведчаць пра тое, што гэта ўжо Сыракомля панёс па сьвеце вобраз Крышталевіча як свой.

* * *

Але ня толькі Крашэўскі і Сыракомля былі закранутыя за жывое самой наяўнасьцю ў віленскім экстэр'еры паэта-імправізатара, што рыфмаваў той моваю, якой яны гаварылі ў жыцьці, але не насьмельваліся карыстацца ў літаратуры, бо адчувалі страшны цяжар гэткага першапраходзтва і рызыку ня стаць клясыкамі чужой, але ўжо распрацаванай літаратуры. Вобраз Крышталевіча перасьледаваў і пісьменьніка менш вядомага, але ня менш пладавітага, чыё імя было Васіль фон Роткірх.

Вось эпізод з апавяданьня Роткірха «Яцак Крышталевіч, віленскі бажаволак».

«У гарадзкім тэатры Крышталевіч таксама нярэдка заяўляў пра сябе. Трагічнай акторкай была тады спадарыня Ашпэргер, прадмет захапленьня ўсіх тэатральных партыяў. Аднойчы ішла ў бэнэфіс яе трагедыя «Вар'ятка». Дамы рыдалі. Настаў страшны момант 5 акту, калі вар'ятка, што ўцякла з вар'ятні, у адной кашулі, з расплеценымі косамі, з кінжалам у адной руцэ і зь дзіцёнкам пад пахаю ў другой, кідаецца ў спачывальню свайго спакусьніка. Усе чакаюць, што яна выскачыць са спачывальні з акрываўленым кінжалам і зь дзікім рогатам, што ёй удалося нарэшце забіць яго. У чаканьні гэтага кульмінацыйнага моманту сцэна бывае пустая і ў публіцы запаноўвае такая глыбокая цішыня, што, здаецца, чуваць біцьцё сэрцаў. Раптам у адным канцы райка нехта чыхнуў.

— На здароўе! — прарэзаў цішыню гучны голас Крышталевіча з другога канца райка.

— Дзякуй! — пачуўся ў адказ дзіцячы голас — і публіка пакацілася са сьмеху.

Акторка зараз жа выскачыла з спачывальні забітага — але ўвесь эфэкт ужо прапаў».

Віленскі дасьледнік творчасьці Роткірха Павал Лаўрынец піша, што барон Васіль Аляксеевіч фон Роткірх належыць да старажытнага рыцарскага роду, карані якога губляюцца ў Сылезіі XII ст., і адгалінаваньні ўнесеныя ў дваранскія матрыкулы Фінляндыі і Ліфляндыі, а дзед ягоны быў жанаты з малодшай дачкой Ганібала. І гэтак далей. Ня трэба мець шырокіх генэалягічных ведаў, каб пераканацца, што кожны



Бэрнардынскія могілкі ў Вільні

шляхціц паходзіць ад Палемона і абавязкова недзе падженіцца зь якой сусьветнай славутасьцю. Ёсьць свае законы доказваньня радавітасьці для публікі.

На зямлю з дваранскага зааблочча нас апускае наступны радок біяграфіі — Роткірх скончыў Магілёўскую гімназію і ў 1837 годзе паступіў юнкерам у Галіцкі егерскі полк. З той пары служыў у частках, што кватаравалі ў заходніх губэрнях Расеі. Тут Роткірх пераклаў Міцкевічавых «Дзядоў» на расейскую мову і адаслаў іх у расейскую прэсу, адкуль атрымаў адказ ад тагачаснае зоркі Майкова: «Якія ж недарэчныя паданьні захоўваюцца дагэтуль у Літве! І якія сумныя выходзяць зь іх паэмы». Гэта — заўважце — толькі пра сюжэт, якасьць перакладу тут ні пры чым. Ці не нагадвае вам прыведзеная ацэнка раней памянёных ацэнак Крашэўскага? Дык вось, пераклаў Роткірх і Крашэўскага. Водгук на пераклады Роткірха, які зьявіўся ў пецярбурскіх часопісах, моцна перагукаецца з тым, як дасталося Крашэўскаму ў «Тыгодніку Пецярбурскім»: *«Долго читали мы такую чушь, наконец вторые петухи пропели, литовская поэма выпала у нас из рук, и тяжелый сон оковал наши бренные вежды; целую ночь снились нам поэмы и рифмоплеты»*.

Роткірх, Крышталевіч, Крашэўскі,



# Сучасныя сагі

## Панк у тралейбусе

У тралейбус зайшоў панк і ціхенька прысеў на вольнае месца. Кабета, што сядзела насупраць, пачала гучна наракаць на норавы моладзі, ганячы нефармалаў ды "дзермакратаў усякіх". Хлопец слухаў абразы з каменным тварам. На чародным прыпынку ўвайшоў кантралёр. Як толькі наракальніца выняла свой квіток, панк выхапіў яго зь ейных рук і зьеў. Ніхто з пасажыраў не захацеў пацьвердзіць, што кабета сапраўды мела "праязны дакумэнт". Давялося ёй сплачваць штраф як злоўленаму "зайцу".

*Беларусы, у большасьці сваёй, любяць, каб усё было ціха й спакойна, без скандалу. Гісторыя мае варыянты ў эўрапейскім сучасным фальклёры.*

## Матацыкліст без галавы

Адзін кіроўца ехаў зь сям'ёю з Ваўкавыску ў Масты. Раптам іх абагнаў матацыкл, на якім сядзеў чалавек без галавы. Апавядальнік ад жаху затармазіў, але тут яго абагнаў ужо цяжкавік, заладаваны вялікімі сталёвымі лістамі. Адзін ліст вытыркнуўся за борт кодаба — акурат там ляжала адцятая галава. Убачыўшы такое, дзядзька зьехаў у кювэт.

*Сучасны варыянт "вершніка без галавы". У беларускай традыцыі з адцятай галавою паўстае абаронца Смаленску Мэркур.*

## Гадзіньнік

Адзін беларускі нацыяналіст зь Менску ўпершыню трапіў у Нью-Ёрк на запрашэньне тамтэйшай беларускай Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага. Пасялілі яго ў адные пары былых СБМаўцаў, а яму перад першай вячэрай закарцела крыху пабадзяцца па месьце. У натоўпе наш зямляк нечакана адчуў, як хтосьці крануў яго за запясьце. Ён разьвярнуўся, убачыў перад сабою мурына і раптам сьцяміў, што на руцэ няма гадзіньніка. "Браток" схапіў чарнаскурага загрудкі і ўладна загадаў: *"Give me that watch!"* Афраамэрыканец спалохана аддаў яму свой *Swatch*. Усьцешаны беларус вярнуўся да гаспадароў і неспадзявана выявіў, што ягоны *Swatch* ляжыць на паліцы ля люстэрка ў лазеньцы.

*У аснове сагі – расавыя перадсуды. Князь Міхал Казімір Радзівіл у жніўні 1722 г. болей перажываў не за тое, што ледзьве не ўтапіўся, а за згублены ў вадзе залаты гадзіньнік ды яшчэ, каб той ня трапіў у рукі рыбака, што назіраў казус.*



## Знаходка на ўзбочыне

Адна кабета ехала адвячоркам на машыне ў бок Бабруйску. Недалёка ад паваротки на Татарку яна заўважыла на ўзбочыне сярод лаўжоў нейкі апарат кшталту абагравальніка. О, думае, муж пад нешта прыспасобіць! І закінула апарат у машыну. Праз два кілямэтры яе спынілі работнікі ДАІ й запатрабавалі вярнуць іхны радар.

*Бабы, бабы... Мужчына, відаць, ня мог бы стаць героем гэтай гісторыі.*

**Сяргей Балахонаў**

## КОШТЫ

### на платныя прыватныя абвесткі:

— да 20 словаў (тэкставы модуль) — 105 руб.
— звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — 132 руб.
— афармленая абвестка — 66 руб. за кв.см.
— афармленая абвестка — памерам больш за 24 кв.см. з улікам кошту арыгінал-макету — ад 87 руб. за 1 кв.см.

За абвесткі пра сямейныя падзеі — зьніжка. Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў аплачваюцца паводле рэклямных расцэнак для камэрцыйных абвестак.

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на разьліковы рахунак: рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010, Ленінскае аддз. ААТ «Белбізнэсбанк» Менску, код 763. **На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і абавязкова дадаецца сказ: «За рэклямныя паслугі».**

*Алену і Алеся Асіпцовых*
*віншуем з нараджэньнем*
***Яраславы.***
*Хай расьце шчасьлівенькая!*
***Сябры***

**Прадаю:**
Кнігі: М. Раманюк «Беларускія народныя крыжы», І. Саверчанка «Aurea Mediocritas», зб. тв. У. Караткевіча ў 8 т. і інш.
Вышлю каталёг: 220030 Менск- 30 а/с 195, Яну; janka_cit@yahoo.com; Тэл.: 258-43-54.



## прыватныя абвесткі



### адзеньне

**Па сымбалічнай цане** прэзэнтую беларускім шматдзетным сем'ям дзіцячае б/у адзеньне ў добрым стане. Т.: 251-30-15

### віtаньні

**Шчыра віншую** ўсіх сьвядомых студэнтаў і выкладчыкаў ВНУ з Днём Волі. Жыве Беларусь!

**Шляхетную паненку**, у будучыні – вучыцельку Тацянку Дзямковіч віншую з Днём Волі. Усяго-ўсяго! Тваё люстэрка

**Найшаноўнейшы Пятро Ламан**, захапляемся Вашым талентам пісьменьніка, уражаныя Вашай гульнёй на сцэне. Удзячныя прыхільнікі Вашага таленту

**Віншую сьвядомую моладзь Воршы** з Днём Волі. Жыве Беларусь! Спадарыня Тутэйшая

**Віншуем Натальлю Дзенісюк** з народзінамі! Зычым здароўя, натхненьня ў творчасьці, радасьці й каханьня, дабрабыту. Алена, Алеська, Юрась

**Наталечка!** Няхай твой анёл-ахоўнік беражэ цябе. Іна

**Алену Бахун** віншуем з Днём народзінаў. Расьці вялікай. Лепшая палова Берасьцейскага МФ

**Віншуем усіх беларусаў** з Днём Волі! Тая, што робіць

**Шаноўны Пятро Ламан! Мы** былі ў тэатры. Уражаныя Вашай гульнёй. Вы – Талент. Вашы гледачы

**Натальку Базылевіч** віншуем з Днём народзінаў! Захапляльных падарожжаў, цікавых сустрэч, шчасьця ў жыцьці! Зборная каманда

**Дзякуй Натальлі Базылевіч** за прачулую крытыку. Праўда, ня ўсё так кепска – заходзь. Павал Севярынец

**Сьлыннага беларускага палітоляга** віншуюць з народзінамі гарачыя прыхільнікі. Будзь незалежнай у незалежнай краіне. Б.І.А.

**Натальля!** Нарэшце ты ўжо амаль дарослая з усімі вынікаючымі... Тыя, што спадзяюцца

**Натальку Васілевіч** віншую з 19-годзьдзем! Паспрабую быць дастойнай вучаніцай. Тая, што хоча верыць

**Moj pupsik!** Kachaju ciabie, dziakuj Bohu, szto ty u mianie jość! Maryjka

**Найлепшага барда** Андрэя Мельнікава віншую з Днём Волі! Шчасьця, каханьня ды вольнасьці! Піяністка з Магілёва

### "Загародзьдзе"

**У сераду,** 28 сакавіка, а 18.30 у Інстытуце праблемаў культуры (Каліноўскага, 12, пак. 59) адбудзецца паседжаньне Заходнепалескага навуковага таварыства "Загародзьдзе". Вольга Лабачэўская будзе чытаць даклад пра палескія ручнікі. У продажы будуць фотаальбом "Палесьсе" і зборнік "Ручнік у прасторы і часе"

### зямля

**Прадам 30 сотак зямлі** з хатай, садам, калодзежам у в.Вендзеж (гадзіна на цягніку зь Менску). Т. у М.Горцы: (213) 43-123 (увечары)

**Прадам надзел** 15 сотак з гаспадарчай пабудовай. 20 км ад Менску. Т.: 274-86-43 (лепш увечары)

### ідэі

**На прэзыдэнцкіх выбарах** трэба галасаваць не за кандыдата. Трэба галасаваць за Беларусь. Вольны Край

**Хутка прэзыдэнцкія выбары.** Ура!!!

**Ісус Хрыстос** – наш Госпад і Збаўца! Кайцеся і верце тыя, хто хоча быць збаўлены. Браты

**Найлепшая беларуская форма** – мова, культура, месца і час – для найвышэйшага, Божага, хрысьціянскага зьместу жыцьця! Нацыянальная ідэя

**Новае пакаленьне** падымаецца адзіным фронтам.

**Моладзь – за Беларусь!** Моладзь – супраць рэжыму! Гэта і ёсьць Малады Фронт

**Бог ёсьць любоў,** і гэта – найвялікшае адкрыцьцё для цябе ў любы момант. Што б ні было – Бог цябе любіць. Браты

**А на прыклад Сьвятога,** Які паклікаў вас (Ісуса Хрыста) і самі будзьце сьвятыя ва ўсіх учынках. І Пётры 1:15

**Масавы выхад 1,5 мільёнаў** маладых людзей на прэзыдэнцкія выбары, а затым і на вуліцы, каб адстаяць перамогу – гэта Малады Фронт. Нацыянальная ідэя

**Вожык** – гэта ня толькі шматлікія калючкі, але і шчырае сэрца. Праўда?

**Мы Беларусы**. Мы патрыёты сваёй Радзімы. Мы любім сваю Радзіму. Жыве Беларусь!

**Калі ня мы**, то хто? Калі не цяпер, то калі? Далучы сваё "Я" да нашага "МЫ"! Пэйдж.: 289-12-12, аб. 4430

**Ні над кім не павінны** ўчыняцца самавольны арышт, затрыманьне або выгнаньне

**Мой каханы**, мы назаўсёды разам. К.М.

**Наконт каханьня** – цалкам згодна. Але школа, ВНУ, праца, пэнсія – гэта не кар'ера! Гэта – жыцьцё!!! Пажадана разам з каханым. У цябе ж атрымліваецца – дзіцячы садок... і каханьне, каханьне, каханьне...

### кампутар

**Прыму ў падарунак** ці набуду за сымбалічны кошт кампутар (любы). 223035, Менскі раён, Ратамка, а/с 16

### кантакты

**Гэй! Сьвядомыя менчукі-патрыёты**, адгукніцеся!

Ліцэісты Лунінца. г.Мікашэвічы, вул.Паўднёвая, 4

**Мы – Беларусы** расейскай мовы і польскага паходжаньня – імкнемся да шчырасьці. Т.: 253-06-45

**Новыя правыя**, далучайцеся! Пэйдж.: 289-12-12, аб. 4430

**Шукаю сябра** да 40, які можа рабіць масаж, не судзімага. Т. (у Кобрыні): 2-50-73

**Старыя прыхільнікі БПС**, вяртайцеся. Высоцкага больш няма. Пэйдж. 289-12-12, аб.4430

**Хлапцам з Гомлю.** Сяржа Высоцкі ніякага дачыненьня да БПС ня мае. Ён звычайны хлопчык. Бэпээсаўцы

**Капустачка!** Мара зьдзейсьніцца, калі ты шчыра верыш у яе. Таму – жыве мара пра Волю! Са сьвятам. Тацянка

### музыка, відэа, кнігі

**Za volu.** Выданьне аднаўляецца. Запрашаем да супрацоўніцтва. Т.: 289-12-12, аб. 7066

**За 10.000 рублёў** куплю кнігу: "Валеры Маракоў. Лёс. Хроніка. Кантэкст". Т.: 211-09-53

**Прадам кнігу** "Курс начинающего волшебника". Т.: 283-52-75

**Куплю Гістарычны слоўнік беларускай мовы** (любыя асобныя тамы ці цалкам). Т.: 213-70-85

**Набуду 4 т. Ц.Гартнага** (кар. колеру). Прадам 1, 3 т. Вялікага расейска-чэскага слоўніка. Т.: 238-80-17

**Музыка ў MP3** (выдатная якасьць): клясыка, джаз, рок, барды і інш. З прыватнай калекцыі. Т.: 262-36-22 (увечары)

**Беларускамоўнае відэа ў Гомлі**: штонядзелю (9.00—12.30) у Піянэрскім сквэры або па т. 45-11-51 (штодня)

**Куплю кнігі з сэрыі "Беларускі кнігазбор":** Ян Чачот, Максім Багдановіч, Вацлаў Ластоўскі. Т.: 283-27-34

**Беларускія кнігі:** штонядзелю ў ДК Трактарнага заводу. Сэктар беларускай літаратуры. Ад 10-й да 14-й

**Беларускі відэаклюб** праводзіць апытаньне: Фільмы ХХ стагодзьдзя: элітарнае кіно. E-skrynka: razumnik@tut.by

### net

**Ахвотных пазнаёміцца** з падзеямі з жыцьця інтэлектуалаў Краю запрашем на сайт: pounds.narod.ru

**"Сьвятая Дуброва"** – Крыўская ПраПАГАНда ў Сеціве. Вяртаньне старых Багоў ды Новае Сярэднявечча шчэ будуць! Kails Druvingiai! http://www.dubrova.cjb.net

### прадаю

**Прадаю** слоўнік расейска-чэскі, расейска-польскі размоўнік, жырандолю новую чэскую з горнага крышталю. Т.: 251-30-15

### праца

**Дапамагу** пачаць уласную справу ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Могуць усе! Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

### футбол

**Далучуся да аматараў,** каб разам увечары ці на выходных пагуляць у футбол. Т.: 247-71-12, Андрэй

## паштовая скрынка

**Аляксандру У. з Гомеля.** Пра Анжэлу і мінэт – сярод гэткага апавяданьня выпiналася б і глядзелася б ненатуральна. Парушылася б цэльнасьць настрою.

Што да кнігі Пазьняка: пытайцеся ў сяброў КХП-БНФ. Яны быццам бы толькі сваім раздаюць. У спэкулянтаў – 10 даляраў.

Што да сп-ні Нат. Б.: адрэсаў не даем, зьмясьціце бясплатную або платную абвестку.

**Валер'ю Г. з Масквы.** У допісе многа сумбуру і гарачкі. Чаму выказваньні Ад. Г. Вам падаліся снабізмамі?

**Сержуку Ц. зь Менску.** Прадаецца ў цэнтральных кнігарнях Менску, на сядзібах ТБМ і БНФ, а найтаньней – у выдавецтве "Беларускі кнігазбор" (т. 220-70-27).

**Івану зь Менску.** Ахвяруючы, памнажаеце. Падпішыцеся.

**Аляксею Ш. зь Менску.** Мы стаім на іншых ідэйных пазыцыях, чым некаторыя з тых, каго Вы не без замілаваньня апісваеце. Але спэцыяльны нумар газэты рэальны, калі Вы таксама ўпражсцеся яго рыхтаваць. Акрамя таго, рыхтуецца нумар "Arche" "Нацыяналізм і нігілізм", які часткова спатоліць Вашу прагу.

**Янку М. зь Менску.** Дай Вам Бог акрыяць. А артыкул перашліце ў "Народную Волю".

**Ві-ку з Жупранаў.** У цяперашнім выглядзе надрукаваць Ваш матэрыял ня можам. Чакаем абяцанага працягу. Надалей хацелася б бачыць у Вашых тэкстах меней агульнавядомых рэчаў абстрактна-патрыятычнага зьместу. Паспрабуйце перарабіць тое самае, абышоўшыся бязь іх.

НАША НІВА КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________
____________________
Імя і прозьвішча ____________________
Адрас, тэлефон ____________________


НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906–1914), Янка Купала (1914–1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991–2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| в.а. галоўнага рэдактара | Андрэй Дынько |
| заснавальнік | Павал Жук |
| карэктарка | Віялета Кавалёва |
| намесьнік гал.рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | рэдакцыя газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://members.nbci.com/nasa_niva/**





6 палос фарматам А2. Друкарня УП выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.

Наклад 3744.

Нумар падпісаны ў друк 26.3.2001.

Замова № 1664.

Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а